# ВЕСЬНІК
## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
і
## САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ
## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫАЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК.

---

**ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ**
**РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ**
**САЮЗУ ССР.**

**№ 13.**

АРТЫКУЛЫ
352—366.

---

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР.
Масква ◆ 1923 ◆ Крэмль.

# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ

і

## САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ САВЕЦКІХ СОЦЫАЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

## ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ

РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ

САЮЗУ ССР

№ 13.

ЦВК РВК РПА

АРТЫКУЛЫ 352—366.



ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР
Масква ⋄ 1923 ⋄ Крэмль.

## ЗЬМЕСТ.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ
# Савету Народных Камісараў
## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**352.** **Аб разьмерах натуральнае і грашовае частак адзінага с.-г. падатку.**

На падставе арт. 5 дэкрэту ЎЦВК ад 10 траўня 1923 г. аб адзіным с.-г. падатку, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанауляе**:

Вызначыць частку адзінага с.-г. падатку, дазволеную плацельшчыкам да здачы натураю:

1. Па Тульшчыне . . . . . . . . . . 50%
2. „ Куршчыне . . . . . . . . . . 50%
3. „ Арлоўшчыне . . . . . . . . . 50%
4. „ Тамбоўшчыне . . . . . . . . 50%
5. „ Варонежчыне . . . . . . . . 50%
6. „ Пензеншчыне . . . . . . . . 50%
7. „ Сімбіршчыне . . . . . . . . 50%
8. „ Саратаўшчыне . . . . . . . 50%
9. „ Самаршчыне . . . . . . . . 50%

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Нам. Сэкратара СНК Саюзу ССР* **Л. Фляксерман.**

3 жніуня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

**353.** **Аб парадку зьберагатаньня замежнай валюты закардонам.**

Дзеля разьвіцьця увагі 2 да арт. 2 паст. УЦВК і СНК ад 15 лютага 1923 г. аб валютных опэрацыях (Зб. Зак РСФСР 1923 г. № 150, арт. 189) Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Гандлёвыя прадстаўніцтвы і ЦСаюз закардонам павінны трымаць належачую ім замежную валюту, у якім бы парадку яна б не паступала у іх загады, на сваіх бягучых рахунках, адчыняемых у замежных корэспондэнтаў дзяржбанку, прычым пры адчыненьні, бягучых рахункаў абгаварываецца права дзяржбанку адтрымліваць ад адпаведных корэсподэнтаў спраўкі аб руху сумаў па паказаным бягучым рахункам. Дзяржбанк і яго замежныя корэсподэнты у свай чарод павінны даваць гандлёвым прадстаўніцтвам неабходныя дзеля іх спраўкі аб становішчы адпаведных бягучых рахункаў.

2. Дзяржбанк паведамляе гандл. прадстаўніцтвам сьпіс сваіх корэспадэнтаў у дадзенай дзяржаве. У выпадку якіх-небудзь супярэчнасьцяў супроць сьпісу з боку гандл. прадстаўніцтва, яны разьвязваюцца НКГС.

Увага. НКГС даецца права дазваляць гандл. прадстаўніцтву—адчыняць, у выпадку асобнай неабходнасьці, бягучыя рахункі і ў банках, не знаходзячыхся корэсподэнтамі дзяржбанку.

3. Крадытныя установы, якія маюць права на вытворчасьць валютных опэрацыяў, могуць трымаць сваю валюту закардонам у сваіх корэсподэнтаў прычым пры выбары гэтых корэспадэнтаў яны кіруюцца паказаньнямі дзяржбанку.

4. Установы і прадпрыемствы, якія маюць права выхаду на замежны рынак, павінны прымаць належачую ім замежную валюту у якім бы парадку яна ні паступала у іх загад, толькі на бягучым рахунку у гандлёвага прадстаўніцтва.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў**
*Кіраунік Справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

7 жніуня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

**354.** **Аб парадку публічных таргоў на дзяржаўныя падрады і дастаўкі.**

Дзеля разьвіцьця арт. 1 палажэньня аб дзяржаўных падрадах і дастаўках ад 27 ліпеня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР, № 3, арт. 54) дзеля адмены інструкцыі НКРСІ, ВСНГ, НКШЗ, НКХ, НКГС і НКВ аб парадку публічных таргоў на дзяржаўныя падрады і дастаўкі і дзеля з'іначаньня арт. 7 пастановы СПА ад 7-га лістападу 1922 году (Зб. Зак. РСФСР

1922 г., арт. 983), Савет Народных Камісараў **пастанаўляе:**

Зацьвердзіць ніжэйнаступную інструкцыю аб парадку публічных торг на дзяржаўныя падрады і дастаўкі.

**1.** Публічныя таргі на здачу дзяржаўнымі установамі і прадпрыемствамі падрадаў і даставак рабіць праз абвесткі умоваў на словах, у запячатаных пакетах і па тэлеграфу (зьмешаныя таргі).

**2.** Дзяржаўны орган, які здае падрад (дастаўку) павінен:

а) выпрацаваць проэкт прапануемай да заключэньня ўмовы;

б) загатаваць узоры, а ў выпадку патрэбы выпрацаваць падрабязнае апісаньне вырабаў, матар'ялаў і працы і тэхнічныя умовы іх спаўненьня;

в) аб'вясьціць загадзьдзя аб маючыхся быць таргах прад публікацыі ці паведамленьні, з дапушчэньнем усіх жадаючых ў іх прыймаць удзел ці толькі асобаў, здавальняючых вызначаным умовам (увага да арт. 4 гэтае інструкцыі).

**3.** Публікацыя аб таргох у тых выпадках, калі абмяркоўная максымальная цана падраду (дастаўкі) не перавышае 100.000 р. золатам, друкуецца у мясцовым губэрнскім (краінным) афіцыяльным органе друку; аб таргах жа, якія маюцца быць у г. Маскве—„у" Известиях ЦИК Саюза ССР і ВЦИК". Калі абмяркоўваемая максымальная цана перавышае 100.000 рубл. публікацыя друкуецца адзін раз у мясцовым органе і адзін раз у „Известиях ЦИК Саюза ССР і ВЦИК", публікацыя ж аб таргах маючыхся быць у Маскве два разы у „Известиях ЦИК Саюза ССР і ВЦИК".

**4.** У публікацыях і паведамленьнях павінны быць паказаны:

а) назва дзяржоргану, абвешчаючага таргі;

б) прадмет таргоў (гатунак, колькасьць і якасьць прадметаў падраду ці дастаўкі);

в) прыблізная цана падраду ці дастаўкі;

г) месца і час таргоў з дакладным паказаньнем гадзіны таргоў;

д) час агляданьня у установе ці прадпрыемстве выпрацаваных умоваў, плянаў і узораў вырабаў, умова на прыгатаўленьне ці дастаўку якіх заключаецца;

е) велічыня залогу, патрабуемага дзеля удзелу у таргах.

Увага. Установы і прадпрыемствы аддаючыя падрады і дастаўкі з торгаў маюць права дапусьціць да выпярэдніцтва усіх жадаючых ці устанавіць умовы, якім павінны здавальняць выпярэднікі, як катэгорыю, да якой належыць выпярэднік (дзяржорган, коопэратыўнае прадпрыемства і г. п.), адзнакі і ступень крэдытаздольнасьці яго, дасьведчанасьці, рэкамэндацыі дзяржорганаў аб добрасумлена выкананай раней працы і г. п.

**5.** Кожны жадаючы гандлявацца павінен асабіста ці праз прадстаўнікоў да пачатку таргоў падаць ці прыслаць па почце у установу ці прадпрыемства, у якім будуць рабіцца таргі:

а) пасьведчаньне ці засьведчаную копію пасьведчаньня, за выключэньнем тых выпадкаў, калі гандлюючыйся асабова вядом гандлёвай к—сіі а ў належных выпадках так сама даручэньне з паказаньнем месца жыхарства гандлюючагася ці яго прадстаўніка;

б) дакумэнты, пасьведчаючыя падачу у належныя установы залогу у велічыні, паказанай у публікацыі (арт. 4 п. „е") ці іншага роўнацэннага забясьпечаньня водлуг згоды з органам, здаючым падрад ці дастаўку.

Увага 1. Калі па зацьверджаньні таргоў соісканель адмовіцца у устаноўлены тэрмін падпісаць умову, як яна прапанавана ім на таргох, дзяржаўны орган, які здае падрад (дастаўку), мае права зьвярнуць залог у сваю карысьць ці шукаць папаўненьня зробленых стратаў, заставіўшы пададзены залог у якасьці забясьпячэньня.

Увага 2. Дзяржаўныя органы, зьмешаныя акцыянэрныя таварыствы, а гэтак сама коопэратыўныя аб'яднаньні усесаюзныя, саюзных рэспублік і краінныя дапушчаюцца да удзелу у таргох і бяз ўнясеньня залогу. Калі па застаўленьні падраду ці дастаўкі за імі, яны адмовяцца падпісаць умову, якая прапанавана імі на торгах, дзяржорган, які здае падрад (ці дастаўку) здабывае права спаганяць з іх няўстойку у велічыні устаноўленай дзеля іншых сыскацеляў залогу або шукаць страты на агульных падставах.

**6.** Таргі робяцца пры абвясьціўшай іх установе ці прадпрыемству асобнай гандлёвай камісіяй. Гандлёвая камісія складаецца ня меньш, як з 3 чалавек; адзін з сябраў камісіі па назначэньню установы ці прадпрыемства, вытвараючага таргі, зьяўляецца яе старшынёй. Камісія вядзе пратакол аб вытворчасьці таргоў і складае targовы ліст.

**7.** Выпярэднікі, зьявіўшыяся на таргі, перад пачаткам іх павінны расьпісацца у тарговым лісту, які дадаецца да пратаколу аб вытворчасьці таргоў. Па абвесцы таргуючыміся сваіх цэнаў і агалашэньні тэлеграфных прапазыцыяў, старшыня камісіі адчыняе запячатаныя абвесткі, якія заносяцца у тарговы ліст, падпісываемы па закончаньні таргоў усім складам камісіі і жадаючымі з ліку выпярэднікаў.

Увага. Падаўшы запячатаную абвестку можа прыняць удзел у таргох на словах толькі пры умове зьніжэньня цаны, першасткова заяўленай у запячатаным пакету.

**8.** Калі таргі будуць закончаны і тарговая камісія прызнае, што адбыўшыяся таргі нявыгадны дзеля дзяржавы, яна пастанаўляе аб вытварэньні ператоржкі, якую і назначае праз тры дні у тым жа памешканьні, дзе рабіліся таргі, аб чым абвяшчаецца таргаваўшымся і вывешываецца абвестка у памешканьні таргоў.

**9.** На ператоржку дапушчаюцца выпярэднікі, як прыймаўшыя удзел у таргах, гэтак і не прыймаўшыя. У тым выпадку, калі на ператоржку ніхто не зьявіцца, а так сама у тым выпадку калі прапанаваныя на ператоржцы умовы здадуцца меньш выгаднымі чым выявіўшыяся на таргох, застаюцца ў моцы першастковыя таргі.

**10.** Калі таргі не адбыліся, з прычыны нельукі соісканеляў, ці яўкі аднаго толькі соісканеля або па іншым прычынам дзяржоргану дазваляецца здаць падрад (дастаўку) бяз таргоў.

**11.** Уся вытворчасьць па таргам падаецца у наступны дзень, з заключэньнем гандлёвай камісіі, на зацьверджаньне дзяржоргану, які здае падрад (дастаўку).

Зацьверджаньне таргоў павінна збыцца у двухдзённы тэрмін.

12. Па зацьверджаньні таргоў кіраўніком дзярж-органу, умова падраду (дастаўкі) заключаецца з асобаю, прапанаваныя якім умовы прызнаны зацьверджаючым таргі найбольш выгаднымі дзеля дзяржустановы ці прадпрыемства. Пры іншых раўных умовах перавага даецца выступаючым у якасьці соіскацеляў дзяржорганам, пры адсутнасьці іх—коопэратыўным аб'яднаньням.

13. Усім соіскацелям, неатрымаўшым падраду ці дастаўкі, залогі варочаюцца назад у двухдзённы з дня зацьверджаньня таргоў тэрмін.

14. У пяцідзённы з дня зацьверджаньня таргоў тэрмін установаю, якая робіць таргі, павінна быць зроблена умова пры абставінах прынятых па таргах, прычым контрагент павінен падаць залог, прадгледжаны арт. 13 палажэньня аб дзяржаўных падрадах і дастаўках.

15. У трохдзённы тэрмін з дня падпісаньня умовы, апошняя у належных выпадках павінна быць адпраўлена дзяржорганам, заключыўшым яго з усімі матар'яламі і вытворчасьцю па зацьверджаньні таргоў, на зацьверджаньне у органы, паказаныя арт. 2 палажэньня аб дзяржаўных падрадах і дастаўках.

Увага. У выпадку адмовы у зацьверджаньні умовы, контр-агенту варочаецца ўнесенае ім забясьпечаньне у двухдзённы тэрмін з дня адтрыманьня паведамленьня аб незацьверджаньні дзяржорганом, рабіўшым таргі.

16. Умова у копіі перадаецца контр-агенту на рукі не раней, як пасьля падачы ім адпаведнага прамысловага патэнту і па выплаце належачага гэрбавага збору.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

7 жніуня 1923 г. Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 266 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 21 лістападу 1923 г.

---

## 355. Аб асобах' якія маюць права прысутнічаць на пасяджэньнях Савету Народных Камісараў Саюзу ССР.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

I. На пасяджэньнях СНК Саюзу ССР маюць права прысутнічаць наступныя асобы:

а) старшыня Савету Народных Камісараў, яго намесьнікі і народныя камісары Саюзу ССР—з правам рашучага голасу;

б) намесьнікі народных камісараў Саюзу ССР—з правам дарадчага голасу—у прысутнасьці народнага камісара, і з правам рашучага голасу—у адсутнасьці народнага камісара з Масквы;

в) сябры Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР, старшыні ЦВК і СНК саюзных рэспублік і паўнамоцныя прадстаўнікі памянёных рэспублік; кіруючы цэнтральным статыстычным упраўленьнем Саюзу ССР, старшыня дзяржаўнае агульнаплянавае камісіі, старшыня галоўнага концэсыйнага камітэту, старшыня камісіі па ўнутранаму гандлю, старшыня аб'яднанае дзяржаўнае політычнае Управы, старшыня ВЦСПС, старшыня ўсерасійскага цэнтральнага саюзу спажывецкіх таварыстваў, старшыня кіраўніцтва дзяржаўнага банку, старшыні грашова—адміністрацыйнай і заканадаўчай камісіяў СНК, старшыня нарадаў неаб'яднаных народных камісарыятаў пры СНК Саюзу ССР, кіраўнік справамі СНК, рэдактар-консультант СНК і СПА—з правам дарадчага голасу;

2) народныя камісары саюзных рэспублік, пры разглядзе паданых імі пытаньняў з правам дарадчага голасу;

д) сябры калегіі саюзных народных камісарыятаў, а ў выпадку адсутнасьці народнага камісара ці яго намесьніка з дазволу народнага камісару і ня больш аднаго ад кожнага народнага камісарыяту—з правам дарадчага голасу;

е) намесьнік і памоцнікі кіруючага справамі СНК, сэкратар і нам. сэкратара СНК, рэдактар «Эканамічнага Жыцьця“, прадстаўнік бюро друку і тэхнічны персонал, абслугоўваючы пасяджэньні СНК. Паказаным у гэтым пункту асобам права голасу у выпадку патрэбнасьці, даецца старшынёю СНК водлуг яго погляду.

2. Парадак допушчэньня на пасяджэньні СНК дакладчыкаў ад ведамстваў і зацікаўленых органаў вызначаецца асобнаю пастановаю.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

7 жніуня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 356. Аб дзяржаўнай хлебнай інспэкцыі.

У мэтах аздараўленьня гандлю зярновымі прадуктамі, як маючымі зварот унутры Саюзу ССР, гэтак і падлягаючымі экспорту, утвараецца адзіная дзяржаўная хлебная інспэкцыя, дзеючая на падставе ніжэйнаступнага палажэньня.

### Палажэньне аб адзінай дзяржаўнай хлебнай інспэкцыі.

### I Агульная частка.

1. Дзяржаўная хлебная інспэкцыя ёсьць орган дзяржаўнага тэхнічнага нагляданьня за якасьцю зярна, як зварочваючагася у нутры Саюзу ССР, гэтак і прызначачага да экспорту.

2. Дзяржаўная хлебная інспэкцыя зьяўляецца на усім абшары (тэрыторыі) Саюзу ССР адзінай і кіруецца з аднаго адміністратыўнага асяродку.

3. Дзяржаўная хлебная інспэкцыя знаходзіцца у веданьні народнага камісарыяту харчаваньня Саюзу ССР, водлуг кошт[а]рыса якога і адпушчаюцца сродкі на яе утрыманьне.

### II. Функцыі дзяржаўнай хлебнай інспэкцыі.

4. У кола веданьня дзяржаўнай хлебнай інспэкцыі ўваходзяць:

а) устанаўленьне клясыфікацыі збожжа;

б) вытворчасьць штогоднага папярэдняга агляданьня якасьці ураджаю у збожжы на прадмет стандартызацыі збожжа;

в) клясыфікаваньне збожжа на падставе устаноўленай клясыфікацыі (разьдзел IV) і выдача сэртыфікатаў;

г) устаноўленьне кондыцыяў дзеля прыёму дзяржаўнага збожжа, якое йдзе у загад НКХарчаваньня;

д) устаноўленьне нормы натуральнай траты збожжа пры зьбераганьні;

е) распрацоўка пытаньняў і мэтодаў ачысткі і лячэньня збожжа і змаганьня з шкоднікамі збожжа пры яго зьбераганьні і транспарту.

### III. Органы дзяржаўнай хлебнай інспэкцыі.

**5.** Дзяржаўная хлебная інспэкцыя павінна мець свае органы:

1) у ва ўсіх хлебавытворчых раёнах,

2) на усіх элеватарах, каму б яны не належалі і

3) у партах, праз якія робіцца вываз збожжа закардон.

**6.** У іншых раёнах і пунктах дзяржаўны хлебаінспэкцыёны нагляд утвараецца НКХ па меры патрэбнасьці.

**7.** Будова органаў дзяржаўнай хлебнай інспэкцыі устанаўліваецца НКХарчаваньня у асобных палажэньнях. Штаты памянёных органаў зацьверджаюцца у устаноўленым парадку.

**8.** У веданьні органаў дзяржаўнай хлебнай інспэкцыі знаходзяцца дзяржаўныя хлебаінспэкцыйныя лябараторыі, належачыя НКХ і арганізуемыя дзяржаўнай хлебнай інспэкцыяй.

### IV. Устанаўленьне клясыфікацыі збожжа.

**9.** Праэкт клясыфікацыі штогодна распрацоўваецца дзяржаўнай хлебнай інспэкцыяй і уносіцца на разгляданьне дзяржпляну з удзелам прадстаўнікоў і наркамзамгандлю, камунутгандлю, наркамграшовых справаў, наркамзему ГСФСР, дзяржбанку, а раўна экспортхлебу і буйных хлебагандлёвых арганізацыяў.

Разгледжаны праэкт клясыфікацыі ўносіцца на канчатковае зацьверджаньне у СПА.

Увага. Прадгледжаны арт. 9 парадак устанаўленьня клясыфікацыі збожжа пашыраецца на устанаўленьне нормаў траты зярна пры зьбераганьні (арт. 4 п. „д“).

**10.** Клясыфікацыі і нормы траты збожжа, належным чынам зацьверджаныя на бягучую кампанію, зьяўляюцца абавязковымі дзеля усіх установаў, прадпрыемстваў, гандлёвых арганізацыяў і прыватных асобаў.

### V. Парадак інспэкцыі збожжа.

**11.** Як правіла устанаўліваецца, што збожжа клясыфіцыруецца і сэртыфікат выдаецца на унутраных элеватарах пры станцыёных дзяржаўных складах і элеватарах, а экспартнае збожжа так сама пры партовых дзяржаўных складах і інстанцыях па шляху па якім яно йдзе.

Увага. Проінспэктыраваныв агон апламбіроўваецца пломбамі дзяржаўнай хлебнай інспэкцыі.

**12.** Абавязковаму клясыфіцыраваньню дзяржаўнай хлебнай інспэкцыі з выдачай сэртыфікату належыць збожжа:

1) дзяржаўнае, адтрымліваемае водлуг падатку,

2) зьберагаючаяся на унутраных элеватарах і паступаючая у партовыя элеватары, а роўна выпускаемае з іх, каму б яно не належала.

3) Усё збожжа, прызначанае да экспорту без розьні ўладараў.

**13.** Сэртыфікат выдаецца толькі дзяржаўным хлебным інспэктарам па устаноўленай інспэкцыяй форме і мае абавязковую моц дзеля усіх установаў, прадпрыемстваў і прыватных асобаў.

Увага. Сэртыфікат на збожжа, прызначанае да перавозкі па чыгунцы ці па унутраным водным шляхам, прыклейваецца да накладной і НКШЗ нясе справаздачнасьць за абавязковую яго пастаўку да месца назначэньня.

**14.** Пры агляданьні збожжа дзяржаўны хлебны інспэктар устаноўленым парадкам адбірае сярэдні узор ад кожнай партыі, які належыць захаваць у працягу 2 х месячнага тэрміну.

**15.** Збожжа, прызначанае да экспорту, можа водлуг погляду дзяржаўнага хлебнага інспэктара, падлягаць догледу пры пагрузцы у вагон, пры ходу ў дарозе, пры паступленьні у элеватар, пры выпуску з элеватараў і пры адгрузцы на параход.

**16.** Збожжа належыць выключна у межах таго тыпу і клясы, да якіх яно адносіцца.

**17.** За інспэктыраваньне збожжа і выдачу сэртыфікату з хлебагандлёвых арганізацыяў і прыватных асобаў спаганяецца вызначаная плата па таксе, выпрацоўваемай НКХ і НКГС. Усе выручаныя ад гэтага сумы йдуць у прыбытак казны.

### VI. Арбітраж.

**18.** Усе спрэчныя пытаньні, паўстаўшыя на грунце інспэктыраваньня і клясыфікацыі збожжа падлягаюць разгляданьню і канчатковаму разьвязваньню хлебных арб. камісіяў, прычым той бок, супроць якога вынясен разьвязак, нясе матар'яльную адпаведнасьць.

**19.** Хлебныя арб. камісіі павінны быць у Маскве, у хлебазагатоўчых раёнах і у партах вывазу хлеба.

**20.** У іншых пунктах хлебныя арбітражныя камісіі утвараюцца НКХ водлуг клопатаў хлебных біржаў ці буйных хлебагандлёвых арганізацыяў, пры прысутнасьці у гэтых пунктах вялікіх хлебных опэрацыяў і нявыгоднасьці зносін з бліжэйшай арбітражнай камісіяй.

**21.** Арб. камісіі знаходзяцца пры органах НКХ у складзе 5-ці сяброў, з прадстаўнікоў: аднаго ад НКХ, аднаго ад ЭКНар, аднаго ад хлебнай біржы ці, у выпадку яе адсутнасьці ад хлебагандлёвых арганізацыяў гэтага пункту, аднаго ад мясцовага органу дзяржбанку. У якасьці пятага сябры абавязкова ўваходзіць прадстаўнік дзяржаўнай хлебнай інспэкцыі на мясцох. У партовых пунктах у склад хлебнай арбітражнай камісіі, апрача паказаных вышэй сяброў, уваходзіць прадстаўнік экспортхлебу.

**22.** У арб. камісіі жальбы могуць паступаць толькі з заключэньнем прадстаўнікоў дзяржаўнай хлебнай інспэкцыі у камісіі.

**23.** Арб. камісіі выносяць свае разьвязкі на падставе довадаў як пададзеных з боку спрачаючых, гэтак і іншым чынам.

**24.** Выдаткі па арбітражу у тым выпадку, калі справа разьвязваецца не ў карысьць зварочваючыхся за разьвязкам конфліктаў у камісію, аплачваюцца апошнімі водлуг таксы, выпрацаванай НКХ і НКГС.

Усе выручаныя сумы йдуць у прыбытак казны.

**25.** Сродкі на утрыманьне хлебных арб. камісіяў адпушчаюцца водлуг каштарысу НКХ.

**26.** НКХарчаваньня даецца магчымасьць выдаваць інструкцыі і правілы дзеля ужываньня гэтае пастановы.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

14 жніуня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 357. Аб утварэньні галоўнага концэсыйнага камітэту пры Савеце Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Социалістычных рэспублік.

Дзеля адмены дэкрэту УЦВК і СНК ад 8 сакавіка 1923 г. (Зб. Зак. і Загад. Раб. Сялян Ураду, № 20, арт. 246), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Утварыць пры Савеце Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік галоўны концэсыйны камітэт (глаўконцэском).

**2.** Глаўконцэском складаецца з старшыні і сяброў, пэрсанальна назначаемых Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР.

**3.** Да веданьня глаўконцэскому Саюзу ССР адносяцца:

а) агульнае кіраваньне усей справай прыцягваньня і дапушчэньня замежнага капіталу і прамысловасьці да гандлёвай і іншай гаспадарчай дзеяльнасьці па абшары (тэрыторыі) Саюзу ССР;

б) вядзеньне і кіраваньне перагаворамі аб заключэньні усякага гатунку концэсыйных і іншых дапушчаючых вынятак з агульных законаў умоваў;

в) разгляданьне пры удзеле прадстаунікоў зацікаўленых ведамстваў усіх проэктаў концэсыйных умоваў, распрацаваных згодна гэтаму палажэньню, у тым ліку і проэктаў концэсыйных умоваў на камунальныя прадпрыемствы, падаваемых у глаўконцэском на падставе дэкрэту СНК ад 12 красавіка 1923 году (Зб. Зак. 1923 г., арт. 344);

г) разгляданьне пры удзеле камунутгандлю: 1) проэктаў статутаў акцыянэрных таварыстваў, у утварэньні якіх прыймае удзел замежны капітал; 2) проэктаў статутаў акцыанэрных таварыстваў, якія маюць у аснове концэсыйную умову або утрымлiваюць вынятак з агульных законаў; 3) хлопатаў замежных акцыанэрных таварыстваў і інш. з дапушчэньнем іх да опэрацыяў на абшары (тэрыторыі) Саюзу ССР.

д) падача на зацьверджаньне СНК Саюзу ССР проэктаў концэсыйных умоваў, а таксама паказаных у п. „г“ статутаў акцыанэрных таварыстваў і проэктаў пастановаў аб дапушчэньні да опэрацыяў замежных фірмаў.

Увага. Пастановы ГКК аб дапушчэньні замежных фірмаў да гандлёвых опэрацыяў у Саюзе ССР зьяўляюцца канчатковымі і падачы на зацьверджаньне у СНК не падлягаюць, калі яны былі прыняты водлуг згоды ГКК з камунутгандлем пры СПА Саюзу ССР НКЗГ Саюзу ССР.

2) Таксама канчатковымі і не падлягаючымі падачы на зацьверджаньне СНК Саюзу ССР зьяўляюцца адносячыяся да веданьня глаўконцэскому пастановы апошняга аб дапушчэньні замежнага большага і меньшага каботажу у Саюзе ССР, калі яны былі прыняты водлуг згоды ГКК з НКШЗ і НКЗГ Саюзу ССР.

е) кантроль над адпаведнымі ведамствамі у галіне нагляданьня імі, за выкананьнем абавязацельстваў па заключоным концэсыйным умовам;

ж) вымаганьне ад усіх установаў, да веданьня якіх будуць адносіцца умовы, падачы усіх неабходных ведаў, а таксама прыняцьці мераў да спыненьня прычын, якія затрымовываюць ажыцьцяўленье умоваў і узбуджэньне, праз адпаведныя органы, пытаньняў аб скасаваньні умоваў пры абгаварваньні нарушэньня апошнімі концэсыонэрамі.

**4.** На глаўконцэском ускладаецца абавязак прыцягваць да разгляданьня проэктаў концэсыйных умоваў прадстаўнікоў зацікаўленых ведамстваў.

**5.** Пры Саветах Народных Камісараў саюзных рэспублік утвараюцца концэсыйныя камісіі, асабовы склад якіх вызначаецца адпаведнымі саўнаркомамі водлуг згоды з глаўконцэскомам Саюзу ССР.

**6.** Концэсыйныя камісіі саюзных рэспублік, як і концэсыйныя камісіі пры асобных народных камісарыятах Саюзу ССР, дзеюць выключна на падставе выдаваемых галоўным концэсыйным камітэтам дырэктываў, інструкцыяў і загадаў.

**7.** Концэсыйныя камісіі, паказаныя вышэй у арт. арт. 5 і 6 накіроўваюць у глаўконцэском усе пратаколы сваіх пасяджэньняў, пэрыодычныя справаздачы па концэсыйным справам і перагаворам, якія вядуцца імі і пер. зводка паступаючых да іх і распрацоўваючыхся імі прапазыцыяў з адпраўкай усіх матар'ялаў.

**8.** З дазваленьня глаўконцэскому концэсыйным камісіям даецца права падпісаньня папяраджаючых проэктаў концэсыйных умоваў; канчатковае ж зацьверджаньне умоваў робіцца СНК Саюзу ССР.

**9** Глаўконцэском мае права адняць вядзеньне перагавораў з концэсыанэрам ад асобных концэсыйных камісіяў.

**10.** Ні адна установа не мае права вясьці перагаворы аб дачы концэсіі без адумысловага на гэта дазваленьня глаўконцэскому.

**11.** Мясцовыя выканкамы могуць вясьці перагаворы аб концэсіях на камунальныя прадпрыемствы у межах дэкрэту ад 12 красавіка 1923 г. (Зб. З. 1923 г. арт. 344).

**12.** Дзеля непасрэдных перагавораў закардонам з замежнымі вынаходцамі концэсіяў і дзеля папяраджаючай распрацоўкі проэктаў концэсійных умоваў, а так сама і дзеля выкананьня замежных даручэньняў глаўконцэскому па концэсійным справам, глаўконцэскому даецца права утвараць пры гандлёвых прадстаўніцтвах Саюзу ССР закардонам у якасьці непасрэдна яму пад'уладных органаў, концэсійныя камісіі, дзеючыя на падставе

асобнага палажэньня аб іх, зацьверджаемага СНК Саюзу ССР.

**13.** Зацьверджаныя СНК Саюзу ССР концэсійныя умовы падпісваюцца ад імя Ураду Саветам Народных Камісараў, у веданьні якога гэтае прадпрыемства знаходзіцца, і скрэпляюцца народным камісарам замежных справаў, за выключэньнем выпадкаў, калі СНК Саюзу ССР асобна упаўнаважае на падпісаньне умовы вызначаных асобаў.

**14.** Аўтэнтныя умовы, падпісаныя упаўнаважанымі на гэта пастановаю СНК Саюзу ССР асобамі і концэсіанэрам, берагуцца у Упраўленьні справамі СНК, копіі умоваў, нележным чынам завераныя, напраўляюцца у глаўконцэском дзеля адсылкі іх народным камісарам, умову падпісаўшым, і народнаму камісару грашовых справаў, а так сама дзеля выдачы іх концэсіанэрам і дзеля зьбераганьня іх пры справах глаўконцэскому.

**15.** Вядзеньне концэсійных перагавораў асобамі не упаўнаважанымі на гэта, згодна гэтаму палажэньню, караецца водлуг 110-га арт. карнага кодэксу.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

21 жніуня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

**358. Аб парадку складаньня і разгляданьня фінансавых каштарысаў і росьпісаў дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў на 1923—24 бюджэтны год.**

Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік пастанавіў зацьвердзіць ніжэйнаступныя часовыя правілы аб парадку складаньня і разгляданьня фінансавых каштарысаў і росьпісаў дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў на будучы 1923/24 бюджэтны год.

### 1. Агульныя палажэньні.

**1.** Будучы бюджетны год, на які належаць складаньнем фінансавыя каштарысы дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў па ведамствах народных камісарыятаў і дараўненых да іх установаў Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік і саюзных рэспублік, пачынаецца з 1 кастрычніка 1923 году і цягнецца да 30 верасьня 1924 г. уключна.

**2.** Падлягаючыя да складаньня на 1923/24 бюджэтны год каштарысы і росьпісы дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў, якія вынікаюць на падставе каштарысаў, маюць значаньне орыентыровачных каштарысаў і росьпісаў, на падставе якіх складаюцца квартальныя росьпісы і штомесячныя бюджэтныя пляны, падлягаючыя непасрэднаму выкананьню у кожным месяцу.

**3.** Народнаму камісарыяту грашовых справаў даручаецца памяркоўна з маючыміся у яго справаздачнымі і іншымі довадамі вопоступыкананьня бюджэту за 1922 г. і першую палову 1923 г. устанавіць праўдападобную намерную суму магчымых у будучым бюджэтным годзе прыбыткаў ад падаткаў, транспарту і сувязі, ад дзяржаўных маемасьцяў і прадпрыемстваў і інш., а гэтак сама ад крэдытных опэрацыяў.

**4.** На падставе паказаных у папярэднім артыкуле падлікаў пры удзеле зацікаўленых ведамстваў народны камісарыят грашовых справаў Саюзу распрацоўвае намеры аб вялічыні агульных орыентыровачных сумаў, у межах якіх маглі б быць складзены бюджэты кожнай саюзнай рэспублікі і агульнасаюзны бюджэт па агульнасаюзных і аб'яднаных ведамствах Саюзу, падае гэтыя намеры на заключэньне дзяржпляну і з гэтым заключэньнем ўносіць у Савет Народных Камісараў Саюзу. Пасьля пахвалы гэтых намераў СНК Саюзу ССР, яны паведамляюцца: а) Саўнаркомам усіх саюзных рэспублік, з тым, каб Саўнарком кожнай саюзнай рэспублікі па свайму погляду прад'указаваў кожнаму ўваходзячаму у яго склад ведамству орыентыровачную суму яго каштарысу і б) кожнаму агульнасаюзнаму і аб'яднанаму ведамству Саюзу непасрэдна дзеля кіраваньня пры складаньні каштарысаў, падлягаючых уключэньню у агульнасаюзны бюджэт.

**5.** Аснаўным матар'ялам дзеля складаньня фінансавых каштарысаў служаць як веды, якія маюцца у цэнтральных органаў ведамстваў, аб чакаемых па кожнаму гэтаму ведамству прыбытках і будучых выдатках, гэтак і адпаведныя веды, довады і вылічэньні, дастаўляемыя мясцовымі органамі водлуг вымаганьняў належных цэнтральных установаў. Апошнія даюць сваім мясцовым органам конкрэтнае паказаньне адносна таго, якія якраз веды, довады і падлікі і да якого тэрміну трэба падаць у асяродак. Непадача мясцовымі органамі гэтых ведаў, довадаў і вылічэньняў ня служаць падставай і адсрочкай каштарыснай працы, прычым дапаўненьнем непададзенага з месцаў матар'ялу служаць справаздачныя довады і іншыя паказаньні вопыту папярэдніх бюджэтных пэрыодаў.

**6.** Усе вылічэньні прыбыткаў і выдаткаў робяцца водлуг нормаў і цэнаў на 1 ліпеня 1923 г. і выказваюцца у каштарысах: а) у залатых рублёх па Усерасійскаму агульнатаварнаму індэксу дзярплану да начатку таго месяцу, лічучы гэты індэкс, за абкругленьнем, замест 97, 96 руб. у 100 р. зн. 1923 г., б) у чырвонцах, дастасоўваючы курс чырвонца на той жа тэрмін у 800 р. у ва усіх тых выпадках, калі нормы і цэны ня выказаны у чырвонцах непасрэдна.

**7.** Намеры ведамстваў аб прыбытках і выдатках у мэталічных грашах і ў замежнай валюце падаюцца на разгляданьне адначасна з агульнымі каштарысамі прыбыткаў і выдаткаў.

### II. Аб вылічэньні прыбыткаў.

**8.** Грашовыя прыбыткі вылічаюцца згодна устаноўленым стаўкам, тарыфам, таксам, умовам і расцэнкам з прыняцьцем пад увагу справаздачных довадаў абсапраўдных паступленьнях прыбыткаў за 1922 г. і за прайшоўшыя м-цы 1923 г. Вылічэньні натуральнай часткі адзінага сельска-гаспадарчага падатку робяцца у пераводзе на жытныя адзінкі водлуг сярэдніх агульных цэнаў на жыта па Саюзу ССР да 1 ліпеня 1923 г.

**9.** Вылічэньні тэй часткі прыбытку ад сельска-гаспадарчага падатку, якая належыць да спагнаньня натурай, павінны выяўляць сабой каштоўнасьць усей колькасьці прадуктаў, чакаемых да паступленьня. Адначасна ў часцы каштарысаў аб выдатках павінна быць

паказана каштоўнасьць прадуктаў, падлягаючых да разьмяркаваньня і рэалізацыі, а так сама каштоўнасьць звычайнай і немінучай страты прадуктаў ад рознага гатунку стратаў і псоты.

**10.** Намеры аб паступленьнях ад падаткаў прамысловага адзінага сельска-гаспадарчага, роўна як і ад іншых падаткаў і іншых прыбытковых артыкулаў, ад якіх установлены вызначаны б процэнтныя адлічэньні ці надбаўкі у мясцовыя сродкі, заносяцца у каштарысы за вылікам тых адлічэньняў і без прыбаўленьня тых надбавак, якія робяцца на месцах і зварочваюцца у мясцовыя сродкі пры самым спагнаньні падаткаў і іншых плацяжоў, але бяз выліку тых адлічэньняў і з прыбаўленьнем тых надбавак, якія належаць да разьмяркаваньня паміж месцамі з асяродку, праз дотацыйны фонд.

**11.** Пры складаньні каштарысаў цэнтральныя установы ведамстваў наглядаюць за тым, каб прыбытковымі каштарысамі былі прадгледжаны усе без выключэньня прыбыткі, якія могуць паступіць у будучым годзе у казну як непасрэдна, гэтак і праз касы адумысловых зборшчыкаў тых ці іншых установаў і прадпрыемстваў і каб усе прыбытковыя намеры былі вылічаны з магчыма большым прыбліжэньнем да праўдападобных сапраўдных паступленьняў.

### III. Аб вылічэньні выдаткаў.

**12.** У межах тых орыентыровачных сумаў якія будуць установлены дзеля кожнага наркамату, ён павінен свой каштарыс выдаткаў скласьці згодна таму пляну, які ён лічыць найбольш важным і мэтазгодным, выходзячы з тых сродкаў, якія яму даюцца. Гэты плян, разам з каштарысам, пераходзіць на далейшае памеркаваньне дзярпляну.

Увага. Пры устанаўленьні згодна гэтаму артыкулу таго ці іншага пляну ведамства ня мае права адступаць па свайму погляду ад установленых тарыфаў, штатаў і нормаў каштарысных вылічэньняў.

**13.** Народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу даручаецца разам з зацікаўленымі ведамствамі, распрацаваць у тыднёвы тэрмін агульныя нормы, на падставе якіх устанаўліваюцца выдаткі на гаспадарчыя і канцэлярскія патрэбы, на апал, дробны рамонт, а так сама выдаткі транспартныя, пачтова-тэлеграфныя, на дарожнае харчаваньне і г. п. Намеры аб гэтых нормах падаюцца на заключэньне дзяржпляну і пасьля прыняцьця іх дзяржпланам перападаюцца у тыднёвы тэрмін адпаведныя паказаньні ведамствам.

### IV. Складаныя часткі каштарысаў і адзінага бюджэту Саюзу ССР. Тлумачэньні і дадаткі да іх.

**14.** Фінансавыя каштарысы складаюцца дзеля прыбыткаў і выдаткаў звычайных і прыбыткаў і выдаткаў і надзвычайных, згодна дадаваемаму да гэтага пераліку, прычым паасобку гэтыя каштарысы утрымліваюць у сабе: 1) пералік параграфаў прыбыткаў з паказаньнем вылічэньняў на будучы каштарысны пэрыод у параўнаньні з каштарыснымі намерамі на папярэдні пэрыод, 2) такі ж пералік параграфаў выдаткаў, 3) прадметнае звядзеньне выдаткаў, разьмяркаваньне водлуг галоўных выглядаў іх у групіроўкі, установленай клясыфікацыяй каштарысаў і росьпісу, 4) падрабязны каштарыс прыбыткаў і падрабязны каштарыс выдаткаў у параўнаньні каштарысных намераў на бюджэтны год з назначэньнямі папярэдняга году на падставе інструкцыі, складаемай у парадку арт. 47 гэтых правілаў, 5) дадаткі да каштарысу, 6) тлумачэньне да каштарысу, агульнае дзеля ўсяго каштарысу і асобную дзеля прыбыткаў і выдаткаў.

**15.** Каштарысныя вылічэньні па кожнаму ведамству разьмяркоўваюцца у каштарысах выдаткаў водлуг асноўных галінаў яго працы і ў межах гэтых падразьдзяленьняў—на параграфы артыкулы і літары.

**16.** Проціў кожнай вылічанай сумы прыбыткаў і проціў кожнага патрабуемага водлуг параграфа, артыкулу і літары крэдыту у слупку „падставы назначэньняў“ выкладаюцца у каштарысе тлумачэньні або довады, стаўшыя падставай дзеля уключэньня іх у каштарыс, а гэтак сама прыводзяцца разьлічэньні, зацьвярджаючыя вялічыню вылічэньняў, або робяцца адноскі на тлумачэньне ці дадаткі, у якіх даецца больш падрабязны матар'ял у довад правідловасьці вылічэньня сумаў.

**17.** Тлумачэньні да каштарысаў даюць сабой агульны агляд знаходзячыхся у веданьні наркаматаў і установаў прыбыткаў і здавальняемых ведамствамі і упраўленьнямі патрэбаў; затым у іх прыводзяцца параграфы каштарысаў з паказаньнем па кожнаму параграфу, ці з'іначваецца назначэньне па гэтаму параграфу процiў назначэньня папярэдняга году і па якім падставам, калі падрабязных тлумачэньняў ня зроблена у самым каштарысе. У тых выпадках, калі гэтыя з'іначаньні вызываюцца новымі намерамі ведамстваў, у тлумачэньню выкладаюцца больш падрабязна абставіны, якія былі повадам да мерапрыемстваў ведамству, вызываючым больш ці меньш істотныя з'іначаньні у вылічэньнях прыбыткаў і выдаткаў або уключэньне у прыбыткі і выдаткі новых артыкулаў і, апрача таго,—тлумачацца чакаемые ведамствам ад гэтых мерапрыемстваў вынікі.

**18.** У дадатках да каштарысу, апрача штатаў і разьлікаў, зацьвярджаючых вялічыню вылічаных у каштарысу сумаў, паведамляюцца справаздачныя і рознага роду статыстычныя адносныя да гэтага прыбытку ці выдатку веды, а так сама веды аб становішчы знаходзячыхся у веданьні тэй ці іншай установы галінаў гаспадаркі, да якіх адносяцца каштарысныя вылічэньні і іншыя довады, карысныя пры разгляданьні каштарысаў.

**19.** Адначасна з каштарысамі бюджэтных дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў, ведамствы падаюць, у выглядзе дадаткаў да гэтых каштарысаў, асобны не падлягаючыя уключэньню у агульны бюджэт, каштарысы ці пералілі адумысловых сродкаў, якія абыймаюць прыбыткі ад збораў і іншых паступленьняў, переданых адумыслова у загад гэтага ведамству на выдаткі па утрыманьню знаходзячыхся у яго веданьні навуковых, асьветных і ўсякага роду установаў і прадпрыемстваў або на ажыцьцяўленьне тых ці іншых мерапрыемстваў і вядзеньне опэрацыяў па ведамству, на якія крэдытаў з казны не дадзена.

Увага. Ніякія бюджэтныя асігнаваньні, зьверх адумыслова вызначаных на паказаныя у гэтым артыкуле мэты ня могуць быць зварочваемы на падмацненьне адумысловых сродкаў ведамстваў.

**20.** У склад адзінага дзяржаўнага бюджэту Саюзу ССР ўвахсдзяць каштарысы і росьпісы дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў: 1) агульна-саюзных, 2) РСФСР, 3) УССР, 4) БССР, 5) ЗСФСР, якія зводяцца у адзін агульны балансавы звод.

Увага. У адносінах агульнасаюзных установаў, знаходзячыхся на тэрыторыі ЗСФСР часова да 1 красавіка 1924 г. застаецца дзеючы цяпер парадак укладу яе бюджэту.

### V. Аб каштарысах і росьпісе агульнасаюзных дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў Саюзу ССР.

**21.** Агульнасаюзны дзяржаўны росьпіс прыбыткаў і выдаткаў Саюзу ССР складаецца з фінансавых каштарысаў прыбыткаў і выдаткаў ЦВК Саюзу, СНК Саюзу, Найвышэйшага Суду Саюзу і Народных Камісарыятаў: па замежным справам, па вайсковым і марскім справам, замежнаму гандлю, шляхаў зносін і почт і тэлеграфаў, а таксама аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага упраўленьня, галоўнага вайскова-санітарнага упраўленьня і галоўнага курортнага упраўленьня, ВСНГ Саюзу, НКХарчаваньня Саюзу, НКГС Саюзу, НК Працы Саюзу, РСІ Саюзу, ЦСУ Саюзу з агульнасаюзных фондаў.

**22.** У каштарысу НКШЗ павінны быць вылучаны: 1) выдаткі на утрыманьне цэнтральнага апарату і яго упаўнаважных на месцах і тыя прыбытковыя паступленьні, якія не зьяўляюцца вынікам эксплёатацыі транспарту, 2) эксплётацыйныя выдаткі і прыбыткі кожнай чыгункі.

Апрача таго, у выглядзе асобнага дадатку да каштарысу НКШЗ павінны быць пададзены каштарысы усіх прапрыемстваў НКШЗ, пераведзеных на гаспадарчае разлічэньне. Гэтыя каштарысы павінны заключаць у сабе намеры аб прыбытках і выдатках прадпрыемстваў, а так сама іх вытворча-тэхнічныя праграмы і фінансовыя пляны, прычым усе яны зводзяцца у адзін агульны зводны бюджэт транспартных прадпрыемстваў НКШЗ, дзеючых на пачатках гаспадарчага разлічэньня.

**23.** У каштарысу прыбыткаў НКШЗ чакаемы ад эксплёатацыі кожнага асобнага транспартнага чыгуначнага прадпрыемства; гэткі прыбытак павінен быць прыведзен у дадатку да належных параграфаў і артыкулаў каштарысу, у якіх прыбыткі ад эксплёатацыі чыгунак паказваюцца у агульных сумах.

**24.** Па аб'яднаным ведамствам ВСНГ, НК Харчаваньня, НКГС, НКПрацы, НКРСУ і ЦСУ у росьпіс Саюзу ССР уваходзяць: а) па прыбытковай частцы—усякага гатунку дзяржаўныя прыбыткі, дабываемые непасрэдна цэнтральнымі саюзнымі органамі гэтых камісарыятаў і упраўленьняў; дзяржаўныя прыбыткі ад маемасьцяў і прадпрыемстваў, пад'уласных непасрэдна гэтым жа органам; дзяржаўныя прыбыткі ад прадпрыемстваў, выяўляючых сабой агульнасаюзныя аб'яднаньні паступленьні у зварот ссудаў; выручка ад рэалізацыі дзяржаўных фондаў; прыбыткі дзяржаўнага Банку і іншых дзяржаўных, крэдытных установаў; усе падатковыя паступленьні, за выключэньнем тых, якія адумысловаю пастановаю ЦВК Саюзу ССР у тэй ці іншай частцы або поўнасьцю будуць перададзены у загад Саюзных Рэспублік, і, нарэшце,—выручка ад крэдытных і валютных опэрацыяў і агульнасаюзнай эмісіі; б) па частцы выдатку—дзяржаўныя выдаткі па утрыманьню цэнтральных саюзных органаў аб'яднаных ведамстваў, а таксама установаў і прадпрыемстваў, пад'уласных ім непасрэдна, а не праз аднаіменыя наркаматы Саюзных Рэспублік, роўна як дзяржаўныя выдаткі, зьвязаныя з абслугоўваньнем патрэбаў і мерапрыемстваў агульнасаюзнага характару аднаіменымі наркаматамі саюзных рэспублік.

**25.** Усе фондавыя крэдыты, устанаўліваемыя Саўнаркомам Саюзу ССР, як: рэзервовы фонд на пакрыцьцё зьверхкаштарысных выдаткаў; дотацыёны фонд на выдачу дапамогаў і ссудаў дзеля павялічэньня мясцовых сродкаў; фонд на пакупку золата і плаціны, рэзервовы дравяны фонд, фонды на выдаткі і плацяжы па пазыкам, фонды на выдачу ссудаў і дапамогаў прамысловасьці, сельскай гаспадарцы, коопэрацыі, камунальным установам, дзяржаўнаму банку і г. п., поўнасьцю праводзяцца па росьпісу агульнасаюзных дзяржаўных выдаткаў Саюзу ССР, з паказаньнем, у належных выпадках, тых частак гэтых фондаў, якія павінны быць перададзены у загад саюзных рэспублік.

**26.** У каштарысы і росьпіс агульнасаюзных дзяржаўных выдаткаў Саюзу ССР у пасобнасьці уключаюцца па ВСНГ—выдаткі цэнтральнага саюзнага апарату і выдаткі па ўсім прадпрыемствам, якія маюць агульнасаюзнае значаньне; на НКГС, НКХарчаваньня НКПрацы і РСІ—выдаткі па утрыманьню цэнтральнага саюзнага апарату іх: па ЦСУ—выдаткі цэнтральнага саюзнага апарату і апрача таго, выдаткі па вытворчасьці агульнадзяржаўных статыстычных перапісаў і абгляданьняў і разпрацоўкі матар'ялаў па гэтым перапісам і абгляданьням, а гэтак сама па утрыманьню агэнтуры первястковага статыстычнага нагляданьня.

Увага. Больш дэтальнае разьмяркаваньне выдаткаў, падлягаючых вылічэньню водлуг бюджэту саюзных ведамстваў і бюджэтаў Саюзных Рэспублік даецца у інструкцыі НКГС, складаемай у парадку арт. 47 гэтых правілаў.

**27.** ВСНГ Саюзу падае у НКГС Саюзу зводны бюджэт прамысловасьці, знаходзячайся у непасрэдным веданьні ВСНГ Саюзу, а гэтак сама вытворча-тэхнічныя праграмы і фінансавы плян па кожнай галіне гэтай прамысловасьці наасобку. Фінансавы плян павінен утрымліваць: а) прыбыткова-выдатковы каштарыс. б) памесячны расклад прыбыткаў і выдаткаў, в) памеркаваньні аб рэалізацыі прадукцыі і г) памеркаваньні аб спосабах крэдытаваньня. Паказаны зводны бюджэт дзяржаўнай прамысловасьці павінен служыць дадаткам да агульнага дзяржаўнага бюджэту.

Увага. Па прамысловасьці, знаходзячайся у непасрэдным веданьні Саюзных Рэспублік, Вышэйшыя Саветы Народнай Гаспадаркі Рэспублік падаюць паказваемыя у гэтым артыкуле зводныя бюджэты у НКПС належных Рэспублік.

**28.** Выяўленыя водлуг паказанага у папярэднім артыкуле па бюджэту прамысловасьці сальдо па асобным галінам прамысловасьці зьяўляюцца асновай дзеля уключэньня у дзяржаўны бюджэт прыбыткаў ад прамысловасьці, ці выдаткаў на пакрыцьцё яе дэфіцытаў, прычым гэтыя выдаткі могуць быць прадгледжаны толькі дзеля прамысловасьці, дзеючай на пачатках дэ-

крэту ад 10 красавіка 1923 г. і маюць мэтай пакрыцьцё чакаемых дэфіцытаў і павялічэньне аснаўных і зваротных капіталаў, пашыраючыся толькі на прадпрыемствы асобнай дзяржаўнай важнасьці. Прыбыткі па кожнай галіне прамысловасьці ўносяцца у прыбытковыя часткі росьпісаў на падставах, устанаўліваемых асобнаю постановаю СНК Саюзу ССР аб фінансіраваньні прамысловасьці.

**29.** Выкладзеныя у арт. арт. 27 і 28 паказаньні аб парадку уступленьня у дзяржаўны бюджэт прадпрыемстваў дзяржаўнай прамысловасьці маюць абавязковую моц так сама і ў адносінах знаходзячыхся па гаспадарчым разьлічэньню прадпрыемстваў усіх іншых наркаматаў, у ведамству якіх гэткія прадпрыемствы маюцца (як напр. па НКХарчаваньня, НКЗемляробства, Замежнгандлю і інш.); неабходныя дзеля гэтага загады адпаведныя наркаматы павінны зрабіць па пад'уладным ім органам незацягіваючы.

**30.** У папярэдняй распрацоўцы ВСНГ і іншымі наркаматамі проэктаў вытворчых праграмаў і фінансавых плянаў, а гэтак сама у працы па выяўленьню велічыні намераў сальдо (арт. арт. 27—29) прыймаюць удзел прадстаўнікі НКГС, прычым форма і парадак гэтага удзелу вызначаюцца згодай старшыні ВСНГ і адпаведных наркомаў з народным камісарыятам грашовых справаў.

**31.** Асігнаваньні з казны, якія робяцца згодна арт. 29 гэтых правілаў, учытываецца у асобным разьдзеле дзяржаўнага бюджэту пад назваю „фонды прамысловасьці".

### VI. Аб каштарысах і росьпісах дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў Саюзу ССР, РСФСР, ЗСФСР.

**32.** Росьпісы дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў Соц. Савецкіх Рэспублік, кожнай паасобку, складаюцца з фінансовых каштарысаў прыбыткаў і выдаткаў іх цэнтральных Выканаўчых Камітэтаў Саветаў Народных Камісараў, об'яднаных ведамстваў, пералічаных у арт. 25 гэтых правілаў і неаб'яднаных народных камісарыятаў: унутраных справаў, апрача ДПУ (арт. 21), юстыцыі, асьветы, аховы здароўя, апрача Глаўсанупра і гал. курортнага упраўленьня (арт, 21), соцыальнага забясьпячэньня і земляробства.

**33.** Прыбыткамі і выдаткамі, належнымі да уключэньня у каштарысы і росьпісы саюзных рэспублік па іх аб'яднаным ведамствам, зьяўляюцца усе прыбыткі і выдаткі, не падлягаючыя вылічэньню па агульнасаюзным каштарысам і росьпісу у парадку арт. арт. 25—30 гэтых правілаў, прычым адпаведныя наркоматы рэспублік самастойна распрацоўваюць свае каштарысы на гэтыя прыбыткі і выдаткі, кіруючыся паказаньнямі, прыведзенымі у тых жа артыкулах. У частковасьці усе выдаткі па утрыманьню цэнтральных і мясцовых адміністратыўных апаратаў аб'яднаных наркаматаў саюзных рэспублік праводзяцца па іх каштарысам, прычым з рэсурсаў Саюзу ССР даюцца саюзным рэспублікам адумысловыя дабаўкі памяркоўна з доляй удзелу апаратаў гэтых рэспублік у абслугоўваньні інтэрасаў Саюзу.

**34.** Усе прыбыткі і выдаткі па неаб'яднаным наркаматам саюзных соц. сав. рэспублік поўнасьцю вылічаюцца водлуг каштарысаў і росьпісаў гэтых рэспублік, за выключэньнем тых выпадкаў, калі Прэзыдыумам ЦВК Саюзу ССР устанаўліваецца поўнае або часткаю залічэньне тых ці іншых прыбыткаў у загад Саюзу. У гэтых выпадках такія адлічэньні праводзяцца па агульнасаюзным каштарысам і росьпісу Саюзу ССР, а з бюджэтаў рэспублік выключаюцца.

Увага. У тым выпадку, калі, як пройдзе каштарысны пэрыод, выявіцца, што сапраўдныя прыбыткі ад непадатковых крыніц па тэй ці іншай саюзнай рэспубліцы перавысілі заданьні,—50% гэтага перавышэньня ідуць у загад Саюзу і 50% застаюцца у загадзе гэтай рэспублікі, прычым з гэтых 50% палова належыць перадачы месцам памяркоўна з доляй удзелу кожнага губвыканкаму у зьбіраньні непадатковых прыбыткаў, а другая палова уключаецца у рэзэрвовы фонд СНК гэтай рэпублікі.

### VІ. Аб каштарысах і росьпісах аўтономных соцыялістычных савецкіх рэспублік.

**35.** Каштарысы і росьпісы дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў аўтаномных соцыялістычных савецкіх рэспублік аб'яднаюцца у бюджэтах належных саюзных фэдэратыўных соцыалістычных савецкіх рэспублік. Парадак і спосабы гэтага аб'яднаньня устанаўліваюцца заканадаўчымі органамі адпаведных фэдэратыўных саюзных рэспублік.

**36.** Бюджэты фэдэратыўных саюзных рэспублік у агульнасаюзныя інстанцыі, разглядаючыя і зацьверджаючыя каштарысы і росьпісы, падаюцца з дадаткам да іх усіх каштарысаў і росьпісаў атаномных рэспублік.

### VIII. Звод агульнасаюзных дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў Саюзу ССР і дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў асобных саюзных соцыалістычных савецкіх рэспублік.

**37.** На падставе росьпісаў агульнасаюзных дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў Саюзу ССР і росьпісаў дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў саюзных соцыялістычных савецкіх рэспублік—складаецца НКГС Саюзу агульны балансавы звод іх, у якім павінны быць асобна выяўлены балансавыя зводы бюджэтаў кожнай саюзнай рэспублікі паасобку. У дадатку да гэтага зводу прыводзяцца балансавыя зводы бюджэтаў аўтаномных рэспублік.

**38.** Народнаму камісарыяту грашовых справаў бюджэтнай нарадзе пры ім даручаецца прыняць усе меры да падачы збалансыраванага орыентыровачнага бюджэту на 1923—24 год, дапушчаючы пакрыцьцё дэфіцыту эмісіяй грашовых знакаў толькі у велічыні, строга адпавядаючай эмісійнаму праву, дадзенаму НКПЗ.

### IX. Парадак разгляданьня і зацьверджаньня каштарысаў і росьпісу.

**39.** Дзеля разгляданьня каштарысаў і росьпісаў утвараюцца пры НКГС Саюзу і НКГС саюзных рэспублік каштарысна бюджэтныя нарады, у якіх прынімаюць удзел старшыня, назначаемы адпаведным народным камісарам грашовых справаў, прадстаўнікі НКГС, РСІ, дзяржпляну і ведамстваў, каштарыс якога абгаварыва-

ецца, а так сама НКПрацы—па пытаньням запрацаванай платы.

**40.** Агульныя абавязкі каштарысна-бюджэтных нарадаў складаюць; праверка правідловасьці вылічэньняў прыбыткаў і выдаткаў, разгляданьне гэтых вылічэньняў з пагляду іх законнасьці і наогул правідловага угрунтаваньня, а так сама выяўленьне пытаньняў аб мэтазгоднасьцістратаў, на якія патрабаюцца крэдыты і аб магчымасьці скарыстаньня кожнай вымагаемай да асігнаваньня сумы у тыя тэрміны, якія устаноўлены каштарыснымі правіламі дзеля дзейнасьці дазваляемых установамі і прадпрыемствамі крэдытаў. Яны павінны, паміж іншым мець нагляданьне за тым, каб у каштарысах не дапушчалася вылічэньне выдаткаў у велічыні неабходнай дзеля ажыцьцяўленьня ведамствам, або установай цэльнага пляну, спаўненьне якога у поўным абʼему павінна патрабаваць больш аднаго бюджетнага пэрыоду. Каштарысы з гэткім вылічэньнем падлягаюць разгляданьню у нарадах і павінны быць зварочваемы ведамствам дзеля пераўкладу с тым, как у іх былі вылічаны толькі тыя выдаткі па дадзенаму пляну, якія неадкладна павінны быць зроблены і фактычна могуць быць зроблены у працягу 1923—1924 бюджетнага году. Нарады наглядаюць за дакладным захаваньнем у каштарысах прыбытковай і выдатковай клясыфікацыі і номэнклятур.

**41.** Каштарысы саюзных рэспублік пасьля разгляданьня іх у каштарысна-бюджэтных нарадах, зводзяцца у росьпісы і падаюцца у саунаркомы, а затым у цэнтральныя Выканаўчыя камітэты рэспублік на зацьверджаньне, Цэнтральным Выканаўчым камітэтам кожнай саюзнай рэспублікі росьпісы, з дадаткам да іх усіх каштарысаў, напраўляюцца у Прэзыдыум ЦВК Саюзу, у дзяржплян і ў НКГС Саюзу.

**42.** Каштарысы агульнасаюзных ведамстваў, а так сама абʼяднаных ведамстваў, якія праходзяць па саюзнаму бюджэту, пасьля разгляданьня іх у бюджэтнай нарадзе НКГС Саюзу і у дзяржпляну абʼяднаюцца у росьпісь агульнасаюзных дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў. Росьпіс гэты з паўстаўшымі рознагалосьсямі і заключэньнямі джяржпляну ўносяцца НКГС Саюзу у СНК Саюзу. Адначасна з гэтым НКГС Саюзу падае у СНК Саюзу і дзяржплян усе росьпісы прыбыткаў і выдаткаў саюзных рэспублік з сваім заключэньнем.

**43.** Па разгляданьні і прыняцьці Саўнаркомам Саюзу паказаных у папярэднім артыкуле росьпісаў, яны перадаюцца НКГС Саюзу, які зводзіць іх у адзіны бюджэт Саюзу ССР і пры тлумачэньні падае з дадаткам усіх каштарысаў агульнасаюзных і абʼяднаных ведамстваі Саюзу ССР, а так сама абʼяднаных і неабʼяднаных ведамстваў кожнай з саюзных рэспублік—у ЦВК Саюзу на зацьверджаньне.

### X. Тэрміны падачы каштарысаў і росьпісаў.

**44.** Укладзеныя на падставе арыентыровачных сумаў (арт. 4) проэкты каштарысаў агульнасаюзных ведамстваў і установаў і абʼяднаных наркоматаў Саюзу падаюцца у НКГС Саюзу да 15 верасьня 1923 г.

Увага. Дзеля НКШЗ і ВСНГ устанаўліваюцца, у выглядзе выключэньня асобныя тэрміны падачы каштарысаў водлуг згоды з НКГС.

**45.** Росьпісы саюзных рэспублік з усімі каштарысамі, тлумачэньнямі і іншымі дадаткамі, падаюцца у Прэзыдыум ЦВК Саюзу ССР і ў НКГС Саюзу ССР да 1 кастрычніка 1923 г.

**46.** Дзеля дачы заключэньня дзярпляну даецца ня меньш 2-х тыднёвага тэрміну з дня атрыманьня ім асобных аснаўных бюджэтных дакумэнтаў.

### XI. Аб распрацоўцы інструкцыі па укладу і разгляданьню каштарысаў.

**47.** Народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу даручаецца разам з НКРСУ і дзярплянам Саюзу распрацаваць у тыднёвы тэрмін інструкцыю па ужытку і выкананьню гэтых правілаў, прычым ведамствы павінны прыймаць гэтыя інструкцыі да выкананьня. Апратэставаньне інструкцыяў у СНК можа быць дапушчаема толькі у выпадках супярэчнасьці іх гэтым правілам.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

21 жніуня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

**359.** **Аб устанаўленьні для г. Масквы і Маскаўскае губэрні вышэйшых крайніх ставак мяйсцовых падаткаў і збораў у залатым вылічэньні.**

У дадатак да пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 27 ліпеня 1923 г. аб устанаўленьні цьвярдых ставак мяйсцовых падаткаў і збораў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г. № 3, арт. 62), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

I. Устанавіць для г. Масквы наступныя вышэйшыя крайнія стаўкі мяйсцовых выдаткаў і збораў у залатым вылічэньні:

1) падатак з жывёлы, за выключэньнем коні, а роўна і іншай хатняй жывёлы, паказанай у пастанове СНК ад 26 верасьня 1022 г. (Изв." ЦВК Саюзу ССР ад 1 і 4 кастрычніку 1922 г. №№ 221 і 225), у разьмеры ня больш трох рублёў з галавы буйнае жывёлы і ня больш трыццацёх капеяк з галавы дробнае жывёлы ў паўгодзьдзе;

2) падатак з фурманнага промыслу с кожнага працуючага ў промысле каня ў разьмерах: ня больш трыццацёх рублёў з каня першае катэгорыі (ліхачэй) і ня больш дзесяцёх рублёў з іншых коняў у паўгодзьдзе;

3) падатак з коняў і ўселякага роду фурманак, належачых як прыватным асобам, таварыствам і прадпрыемствам, так і урадовым установам і прадпрыемствам, у наступных размерах на паўгодзьдзе: а) для прыватных асобаў, таварыстваў і прадпрыемстваў—з выязных коняў ня больш трыццацёх рублёў, з рабочых коняў ня больш дзесяцёх рублёў, з легкавых экіпажаў ня больш пятнаццацёх рублёў і з грузавых фурманак ня больш пяцёх рублёў і б) для дзяржаўных установаў і прадпрыемстваў, знаходзячыхся на дзяржаўным бюджэце і пераведзеных на гаспадарчы разрахунак,—з выязных коняў ня больш пятнаццацёх рублёў, з рабочых коняў ня больш пяцёх рублёў, з

легкавых экіпажаў ня больш сямёх рублёў пяцьдзесят капеяк і з грузавых фурманак ня больш двох рублёў пяцьдзесят капеяк;

4) падатак з самарухаючыхся экіпажаў, належачых як прыватным асобам, таварыствам і прадпрыемствам, так і ўрадовым установам і прадпрыемствам, за выключэньнем знаходзячыхся на дзяржнўным бюджэце, ў наступных разьмерах з кожнае сілы ў паўгодзьдзе: а) з легкавых аўтамабіляў ня больш чатырох рублёў, б) з грузавых аўтамабіляў ня больш аднаго рубля пяцьдзесят капеяк, в) з матацыклаў без пасажырскай каляскі ня больш двох рублёў і г) з матацыклаў з пасажырскай каляскай ня больш двох рублёў пяцьдзесят капеяк;

5) падатак на велосіпэды, належачыя як прыватным асобам, таварыствам і прадпрыемствам, так і ўрадовым установам і прадпрыемствам, за выключэньнем знаходзячыхся на дзяржаўным бюджэце, ў наступных разьмерах на паўгодзьдзе: а) для дзяржаўных установаў і прадпрыемстваў і рабочых і служачых, якія зьяўляюцца сябрамі прафсаюзаў,—ня больш аднаго рубля, б) для іншых асобаў, таварыстваў і прадпрыемстваў ня больш трох рублёў;

6) збор з прыганяемай на рынкі для прадажы жывёлы у наступных разьмерах: а) з галавы буйной жывёлы і коняў ня больш аднаго рубля і з галавы дробнае жывёлы ня больш сорак копеяк;

7) падатак на асобаў, якія карыстаюцца наемнаю працаю для хатняга абіходу (хатняя прыслуга) у разьмеры ня больш пяцёх рублёў, а з працоўнага насельніцтва ня больш двох рублёў пяцьдзесят капеяк на паўгодзьдзе пры аднэй прыслузе, а пры наліччы некалькіх прыслуг ня больш дзесяцёх за кожную наемную асобу;

8) падатак з плякатаў, афіш і рэклям у наступных разьмерах:

а) з кароткатэрміновых плякатаў і афіш, якія раздаюцца на вуліцах ці выстаўляюцца і расклеіваюцца на тэрмін ня больш пятнаццаць дзён на особна вылучаных мейсцах, вітрынах, сьценах і г. д.,—ня больш васьмёх капеяк за кожны квадратовы вяршок плякату ці афішы з поўнай ці няпоўнай тысячы экзэмпляраў;

б) з пастаяных рэклям, якія выстаўляюцца ці расклейваюцца на тэрмін ня больш пятнаццацёх дзён у вагонах, тэатрах, гасьцініцах, у чыгуначных, пачтовых і ўселякага роду іншых грамадзянскіх мейсцах і установах вонках фасаду рэклямуемай установы: 1) з жорсткіх рэклям, друкаваных і пісаных ручным спосабам, ня больш двох рублёў за кожны квадратовы аршын рэклям у месяц і г) з мягкіх друкаваных рэклям за кожны квадратовы аршын рэклямы у месяц ня больш дзесяцёх рублёў у колькасьці ня больш 50 экзэмпляраў; ня больш пятнаццацёх рублёў у колькасьці больш 50 да 100 экзэмпляраў; ня больш дваццацёх двух рублёў—у колькасьці больш 100 да 200 экзэмпляраў; ня больш трыццацёх рублёў—у колькасьці больш 200 да 300 экзэмпляраў; ня больш сараку рублёў—у колькасьці больш 300 до 500 экзэмпляраў і ня больш семдзесят рублёў— у колькасьці больш 500 да 1.000 экзэмпляраў і за кожную наступную поўную ці няпоўную тысячу экзэмпляраў;

в) са сьветавых рэклям—ня больш пяцёх капеяк за кожны квадратовы вяршок рэклямы на меся..;

9) падатак на більярды і кегельбаны з кожнага більярду і кегельбану на месяц у наступных разьмерах: а) з адчыненных да 23 гадзіны—ня больш сту рублёў і б) з адчыненых пасьля 23 гадзіны ня больш сто пяцьдзесят рублёў.

Увага. Для іншых мясцовых падаткаў і збораў, не прадгледжаных у гэтай пастанове, захоўваюцца вышэйшыя крайнія стаўкі, устаноўленыя пастановаю ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 27 ліпеня 1923 г.

II. Падаць Прэзыдыуму Маскоўскага Савету для гараздзкіх пасяленьняў Маскоўскае губэрні, за выключэньнем г. Масквы, падвышаць крайнія стаўкі мясцовых падаткаў і збораў, зацьверджаныя пастановаю ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 27 ліпень 1923 г., з тэй, адылі, умоваю, каб разьмер гэтых падвышаных ставак не перавышаў пяцьдзесят процантаў ставак, устаноўленых у разьдзеле і гэтае пастановы.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
4 верасьня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 360. Аб назначэньні адзіначасовае дапамогі и пэнсії сям'і тав. Вельлінга.

Прымаючы пад увагу выключныя заслугі перад рэспублікаю загінуўшага начальніка вайскова вучэбных завядзеньняў чырвонага паветранага флёту, чырвонага вайскова лятуна **Б. К. Вельлінга**, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе;**

Назначыць сям'і тав. Вельлінга, якая складаецца з жонкі Марылі Міхасёвай Вельлінг, дачкі Галіны і маці Марылі Васілёвай Вельлінг, адзіначасовую дапамогу у разьмеры сто (100) рублёў у чырвоным вылічэньні, а так сама пэнсію ў разьмеры 120 рублёў у чырвоным вылічэньні на месяц.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
15 сьнежня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 361. Назначэньне.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Зацьвердзіць пры народным камісары замежнага гандлю т. Красіну калегію ў наступным складзе:

т. Фрумкін . . . . . . . намнаркам
т. Бегге. . . . . . . . . сябар калегіі
т. Брон. . . . . . . . . сябар калёгіі
т. Іванян. . . . . . . . сябар калегіі
т. Сгаманякаў. . . . . . сябар калегіі
т. Сарокін . . . . . . . сябар калегіі
т. Прыгарын. . . . . . . сябар калегіі
т. Ганецкі. . . . . . . . сябар калегіі
т. Ляндэр . . . . . . . сябар калегіі
т. Хлаплянкін. . . . . . сябар калегіі

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціега.**
31 ліпеня 1923 г. Масква—Крэмль.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ
# Савету Працы і Абароны
## Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік.

**362. Аб пашырэньні на НКГС пастановы СПА ад 16 траўня 1923 г. аб передачы НКХарчаваньня памешканьняў дзэля складу НКШЗ, неабходных дзеля правядзеньня пада ковай кампаніі 1923—1924 опэрацыйнага году і аб арэнднай плаце, падлягаючай да спагнаньня з НКХарчаваньня за памешканьні дзеля складу НКШЗ у паласе чыгуначнага адчужджэньня.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Пастанову СПА ад 16 траўня 1923 г. аб перадачы НКХарчаваньня памешканьняў дзеля складу НКШЗ, неабходных дзеля правядзеньня падатковай кампаніі 1923—24 опэрацыйнага году і аб арэнднай плаце, падлягаючай да спагнаньня ЗНКХарчаваньня за памешканьні дзеля складу НКШЗ у паласе чыгуначнага адчужджэньня (Зб- Зак. РСФСР 1923 г. № 44, арт. 471) пашырыць і на НКГС у губернях, дзе частка адзінага с.-г. падатку будзе спаганяцца у натуральнай форме органамі НКГС органы НКГС павінны карыстацца дадзенымі ім памешканьнямі дзеля складу на умовах, паказаных у арт. 4 пастановы СПА ад 6 га ліпеня 1923 г. аб мерах да пасьпешнага правядзеняня хлебнай кампаніі ураджаю 1923 г. (Зб. Зак. РСФСР 1923 г. № 64, арт. 624).

2. Крайнім тэрмінам падачы сьпісаў на паказаныя памешканьні у парадку пастановы СПА ад 16-га траўня 1923 г. устанавіць 1 верасьня 1923 году.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Нам. Сэкратара СПА Саюзу ССР* **С. Флаксэрман.**

3 жніуня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

**363. Аб зацьверджаньні газэты „Эканамічае Жыцьцё" ў якасьці офіцыяльнага органа СПА Саюзу ССР и Экнары РСФСР.**

У адпаведнасьці з пастановаю эканамічнае Нарады РСФСР ад 10 жніўня 1923 г., Савет Працы і Абароны Саюзу ССР, з'інача ньнем постановы сваей ад 10 жніўня 1923 году, **пастанаўляе:**

Зацьвердзінь газэту „Эканамічнае Жыцьцё" ў якасьці офіцыяльнага органа Савета Працы і Абароны Саюзу ССР і эканамічнае нарады РСФСР.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

17 жніуня 1923 г. Москва—Крэмль.

---

**364. Часовыя правілы аб пераводзе на гандлёвае разьлічэньне кіраўніцтваў дзяржаўных рачных параходзтваў.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанавіў.**

**1.** Часова, раней чым устанавіць новае палажэньне аб дзяржаўных рачных параходзтвах, зацьвердзіць ніжэйнаступныя правілы.

**2.** Усе кіраўніцтвы дзяржаўных рачных параходзтваў, за выключэньнем Сярэдня-Азіяцкага, зьняць з дзяржбюджэту і пэравясьці на поўнае гандлёвае разьлічэньне, згодна дэкрэту УЦВК і СНК ад 10 красавіка 1923 г. аб дзяржаўных прамысловых прадпрыемствах, дзеючых на пачатках гандлёвага разьлічэньня (З. У 1923 г. арт. 336). Тэрмінам пераходу параходзтваў на гандлёвае разьлічэньне лічыць 1 ліпеня 1923 г.

**3.** Кіраўніцтвы дзярж. параходзтваў, пераведзяныя на гандлёвае разьлічэньне, прымаюць у свае веданьне:

а) як аснаўны капітал—рачную транспартную маемасьць, абслугоўваючую у цяперашні час рачную транспартную гаспадарку і знаходзячуюся у веданьні кіраўніцтваў дзяржпараходзтваў, як: паравыя і непаравыя судны, дэбаркадзеры, докі і інш. плавучыя сродкі успаможнага характару, рамонтныя заводы і майстэрні стапелі і элінгі, прыстанскія пабудовы, склады, жылыя памяшканьні і г. п. маемасьць;

б) як зваротны капітал—усе матар'ялы, знаходзячыяся на складах дзяржпараходзтваў за выключэньнем ма-

тар'ялаў, знаходзячыхся на часовым зьбераганьні неналежачымі іншым арганізацыям. Да зваротнага капіталу адносяцца гэтак сама усе грашовыя сродкі гэтага дзяржпараходзтва.

Канчатковы склад маемасьці асобных дзяржпараходзтваў устанаўліваецца СПА водлуг падачы НКШЗ.

Уся вышэпаказаная маемасьць па ацэнцы, зробленай у залежнасьці ад тэхнічнага становішча і працаздольнасьці транспартных сродкаў, запісваецца у уступны баланс кіраўніцтваў. Кіраўніцтвы павінны скласьці баланс і поўны інвэнтарны сьпіс зацэнкай на 1-е ліпеня 1923 г.

4. Маемасьць, прынятая кіраўніцтвамі дзярж. параходзтваў і запісаная у іх баланс можа быць перадана у веданьне іншых дзяржаўных установаў і коопэратыўных арганізацыяў, не інакш, як у парадку вышэйназванага дэкрэту ад 10 красавіка 1923 г.

Увага. Здача суднаў у арэнду робіцца пад загадам кіраўніцтваў дзяржпараходзтваў.

5. Уся маемасьць, якая перайшла у веданьне кіраўніцтваў дзяржпараходзтваў эксплёатуецца імі самастойна, але на падставе статуту, зацьверджаемага дзеля кожнага параходства паасобку.

6. Усе перавозкі дзяржпараходзтва вытвараюць ці водлуг устаноўленых імі тарыфаў ці ў парадку умоўных ўлагоджаньняў, за выключэньнем выпадкаў прамых чыгуначна-водных зносінаў, якія рэгуліруюцца у агульным тарыфным парадку.

7. Кіраўніцтвы дзяржпараходзтваў абавязуюцца падтрымоўваць пачтовыя і пасажырскія лініі, а гэтак сама рабіць воінскія перавозкі, у вялічыні і кірунках, паказваемых Урадам. Увыпадку стратнасьці гэтых лініяў і перавозак і устанаўленьня СПА абявязковасьці іх падтрыманьня, сродкі на пакрыцьцё дэфіцыту адпушчаюцца Урадам водлуг каштарысу НКШЗ па адпаведным падразьдзелам каштарысу).

8. Кіраўніцтвам дзяржпараходзтваў даецца права разьціцьця успаможных транспарту прадпрыемстваў.

9. Кіраўніцтвы дзяржпараходзтваў, апрача транспартных опэрацыяў, маюць права прыймаць на сябе камісіёна—гандлёвыя опэрацыі, рабіць опэрацыі па складскай гаспадарцы, рабіць страхаваньне грузаў, выдачу ссудаў на перавазімыя тавары, абавязываецца вэксалямі, крэдытавацца у крэдытовых установах і крэдытаваць сваіх кліэнтаў, а гэтак сама заключаць умовы на дастаткі і падрады у межах сродкаў зваротнага капіталу.

Увага. Парадак вядзеньня ссудных і страхавых опэрацыяў згаджаецца з дзярбанкам і дзяржстрахам водлуг належнасьці.

10. Кіраўніцтвы дзяржпараходзтваў абавязаны зрабіць справаздачу публічна у сваіх дзеях і падаць бухгальтэрскія справаздачы і балансы у НКШЗ, згодна дэкрэту ад 10 красавіка 1923 г. і ў парадку, паказаным у статуту гэтага параходзтва.

11. У мэтах коордыніраваньня дзеяў усіх кіраўніцтваў дзяржпараходзтваў пры народным камісарыяту шляхаў зносін арганізуецца бюро кіраўніцтваў дзяржпараходзтваў, з месцам знаходжаньня у м. Маскве, непасрэдна пад'уладнае народнаму камісарыяту шляхаў зносін.

12. З пераходам рачнога транспарту на гандлёвае разьлічэньне усе рачныя і вазёрныя шляхі зносін абвяшчаюцца шляхамі агульнага карыстаньня, прычым парадак карыстаньня воднымі шляхамі вызначаецца асобным статутам водных шляхаў, які павінен быць распрацован НКШЗ і пададзен на зацьверджаньне СНК.

13. Дзяржпараходзтвам даецца пры роўных умовах пераважнае перад іншымі параходзтвамі права на рачныя перавозкі грузаў у сіх дзяржаўных установаў і аб'яднаньняў.

14. Агульнае рэгуліраваньне суднабудаўніцтва робіцца НКШЗ праз выданьне адпаведных правілаў і загадаў.

15. Дзеля таго, што трудна распачаць опэрацыі дзяржпараходзтваў і кепскага іх фінансавага становішча як льгота для іх устанаўліваецца:

а) дача у іх загад паступленьняў па запазычанасьці груза адпраўшчыкаў па перавозкам за гэту навігацыю, гэтыя паступленьні прызначаюцца на павялічэньне зваротнага капіталу,

б) да 1-га красавіка 1924 году водпуск топліву па пляновым цэнам у межах патрэбнасьці, прыгледжаной топліўным плянам.

16. Усе сумы скарыстаныя дзяржпараходзтвамі на утрыманьне водных шляхаў пасьля 1-га ліпеня 1923 г. павінны быць зьвернены дзяржпараходзтвам з сродкаў казны.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

24 жніўня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

**365.** **Цьвёрдыя стаўкі акцызаў (у чырвоным вылічэньні).**

1. На віны:

А. Мясцовага вырабу:

а) вінаградныя віны з алкаголем да 14° і пладова-ягодныя—тры рублі дваццаць капеяк з вядра або дваццаць шэсьць капеяк з літру;

б) вінаградныя віны з алкаголем звыш. 14°, але ня болей 20° і з разьнак—восем рублёў з вядра або шэсьцьдзесят пяць капеяк з літру;

в) пенячыя (шыпучыя, зробленыя як шампаньскае)—дваццаць рублёў з вядра або адзін рубель шэсьцьдзесят тры капейкі з літру.

Увага. Там, дзе вырабляюцца вінаградныя віны, паказаный у 1-м аддзеле у п. 1 літ. „а“ гэтае пастановы абкладваюцца акцызам на палову, акрамя вінаў, якія прадаюцца у гэтых раёнах у межах местаў, а гэтак сама вінаў якія вывозяцца за межы гэтых раёнаў.

Б. Прывожваемыя з за кардону:

а) з алкаголем да 14°—шэсьць рублёў сорак капеяк з вядра або пяцьдзесят дзьве капейкі з літру;

б) з алкаголем звыш 14°, але ня болей 20°—шоснаццаць рублёў з вядра або адзін рубель трыццаць капеяк з літру;

в) пёнячыя (шыпучыя, зробленыя як шампаньскае)—сорак рублёў з вядра або тры рублі дваццаць пяць капеяк з літру;

2. На вырабы з табакі:

А. Мясцовага вырабу:

табака дзеля курэньня (не карашкі)

а) вышэйшага гатунку—тры рублі шэсьцьддзесят капеяк з фунту або восем рублёў восемдзесят капеяк з кілёграму;

б) першага гатунку—два рублі дзесяць капеяк з кілёграму;

в) другога гатунку—адзін рубель трыццаць капеяк з фунту або тры рублі пятнаццаць капеяк з кілёграму;

папяросы з тысячы:

г) вышэйшага гатунку—шэсьць рублёў шэсьцьдзесят капеяк з тысячы;

д) першага гатунку—тры рублі пяцьдзесят пяць капеяк з тысячы;

е) другога гатунку—адзін рубель восемдзесят пяць капеяк з тысячы.

Увага. Пры выплаце акцызу у вялічыні як наказана у пп. **а**, **б**, **в**, **г**, **д**, **е** выплачаны акцыз павінен складаць у сярэднім на меньш двух рублёў з фунту або чатырох рублёў дзевяноста капеяк з кілёграму табакі дзеля курэньня о трох рублёў трыццаці капеяк з аднае тысячы папяросаў.

ж) Дадатковы акцыз з папяросаў, выраблямых у папяросных майстэрнях—дцаццаць шэсьць капеяк;

з) карашкі—трынаццаць капеяк з фунту або трыццаоь дзьве капейкі з кілёграму;

і) цыгары (сыгары)—шаснаццать рублёў з тысячы штукаў;

к) цыгаркі (сыгарэты)—шэсь рублёў з тысячы штукаў;

л) папяросы з карашкоў—восемдзесят капеяк з тысячы штукаў.

Б. Прывожваемыя з-за кардону:

а) табака дзеля курэньня і нюханьня усіх гатункаў—чатыры рублі з фунту або дзевяць рублёў семдзесят капеяк з кілёграму;

б) папяросы усіх гатункаў—восем рублёў з тысячы штукаў;

в) цыгары—пяцьдзесят пяць рублёў з тысячы штукаў;

г) цыгаркі—дваццаць рублёў з тысячы штукаў.

**3.** На запалкі—дзьве трэці капейкі з пушкі.

**4.** На гільзавыя вырабы:

а) гільзы дзеля папяросаў—дваццаць шэсьць капеяк з тысячы;

б) паперы дзеля папяросаў—дзьве капейкі з квадратовага мэтру.

**5.** На піва—адзін рубель трыццаць капеяк з вядра або дзесяць з паловаю капеяк з літру.

**6.** На мёд, квас, фруктовыя і штучныя мінеральныя воды—дваццаць шэсьць капеяк з вядра або дзьве капейкі з літру.

Увага. Стаўка, паказаная у гэтым пункту захоўвае моц да увядзеньня у дзейнасьць пастановы СНК Саюзу ССР ад 17 жніўня 1923 г. аб зьнічаньні сыстэмы абкладаньня акцызам мёду, квасу, фруктовых і штучных мінеральных водаў.

**7.** На бураковы крыштальны цукар:

а) цукар-пясок—чатыры рублі з пуду або дваццаць чатыры капейкі з кілёграму;

б) цукар кускавы — дадатковы, акрамя галоўнага акцызу — адзін рубель з пуду або шэсьць капеяк з кілёграму.

**8.** На цукар з крухмалу жыжкавы і цьвёрды, крухмальную патаку, глюкозу і кускавы цукар крыштальны і не крыштальні—адзін рубель шэсьцьдзесят капеяк з пуду або дзесяць капеяк з кілёграму.

**9.** На сахарын і іншыя падобныя да яго штучныя салодкія рэчы — трыццаць рублёў дваццаць капеяк з фунту бруто або трыццаць два рублі дваццаць капеяк з кілёграму бруто.

**10.** На гарбату:

а) байхавая—адзін рубель дваццаць капеяк з фунту або два рублі дзевяцьдзесят капеяк з кілёграму;

б) у плітках—семдзесят капеяк з фунту або адзін рубель семдзесят капеяк з кілёграму;

в) у цэглінках — трыццаць капеяк з фунту або семдзесят пяць капеяк з кілёграму.

**11.** На каву натуральную, сырую або паленую і зьмеленую—восемдзесят капеяк з фунту або адзін рубель дзевяцьдзесят пяць капеяк з кілёграму.

**12.** На усякія сурагаты гарбаты і кавы—шэсьць з паловаю капеяк з фунту або шаснаццаць капеяк з кілёграму.

**13.** На соль дзеля варыва—сорак пяць капеяк з пуду або тры капейкі з кілёграму.

**14.** На нафтавыя прадукты:

а) нафтавы алей дзеля асьвятленьня і іншыя прасьвечваючыя прадухты (соляровы алей і алей дзеля змазваньня), выключая беньзін — восемдзесят капеяк з кілёграму;

б) беньзін—адзін рубель шэсьцьдзесят капеяк з пуду або дзесяць капеяк з кілёграму.

**15.** На вінны сьпірт;

а) калі адпушчаецца дзеля умацаваньня вінаградных вінаў, дзеля прыгатаваньня налівак і пастояк і усякіх эсэнцыяў і парфумерных вырабаў з градусу сырога сьпірту—дваццаць чатыры капейкі і з градусу рэктыфікаванагасьпірту—трыццать капеяк;

б) калі адпушчаецца дзеля іншых тэхнічных, хімічных і іншых патрэбаў з градусу сырога сьпірту—восем капеяк; з градусу рэктыфікаванага сьпірту дзесяць капеяк;

в) калі адпушчаецца на вырабатку воцту з градусу сырога сьпірту—чатыры капейкі.

**16.** На расейскі каньяк;

а) выраблямы з аплачанага акцызам каньячнага сьпірту дадатковы акцыз—трыдцать рублеў дваццаць капеяк з вядра або адзін рубель восем капеяк з літру;

б) прыгатаваны з неаплачнага акцызам каньячнага сьпірту, акрамя дадатковага акцызу—трыццаць капеяк з градусу знаходзячагося у ім сьпірту.

**17.** На гарэлачныя вырабы, адпушчаемыя з запасаў, якія мае у сваім загадзе Нар. Кам. Аховы Здароўя дзеля лекаў, а гэтак сама на наліўкі і настойкі ня звыш $20^0$ моцы, апрача галоўнага акцызу з сьпірту у вялічыні—трыццаць капеяк з градусу знаходзячагася у ім сьпірту дадаткова дзесять рублёў шэсьцьдзесят капеяк з ведра або восемдзесят шэсьць капеяк з літру.

**18.** На прасованые дрожджы—дваццаць шэсьць капеяк з фунту або шесьцьдзесят чатыры капейкі з кілёграму.

**19.** На сухія дрожджы:

а) прыгатаваныя высушваньнем прасаваных дрожджаў па асобнаму спосабу—восемдзесят капеяк з фунту або адзін рубель дзевяцьдзесят пяць капеяк з кілёграму:

б) прыгатаваныя водлуг способу выработкі прасованых дрождж аў з дадачаю мукі і іншых падобных да яе прымешкаў гэтулькі, кад зусім зацьвярдзела дрожджавое месіво — дваццаць шэсьць капеяк з фунту або шэсьцьдзесят чатыры капейкі з кілёграму.

**20**. На гумовыя галёшы:

а) з галёшаў унутранага вырабу—дваццаць шэсьць капеяк з пары;

б) з галёшаў, прывожваемых з-за кардону пяцьдзесят дзьве капейкі з пары.

Увага. З дзіцячых галёшаў акцыз спаганяецца на палову.

**21**. На васковыя і озокерытавыя сьвечкі—восемдзесят капеяк з фунту або адзін рубель дзевяцьдзесят пяць капеяк з кілёграму.

**22**. На пражу і грэжу (з фунту або кілёграму):

**А, Папяровая пража.**

ня вышэй № 9—дзьве капейкі з фунту або чатыры і дзевяць дзясять капейкі з кілёграму.

Вышэй № 9, але ня вышэй № 29—чатыры і чатыры дзесятыя капейкі з фунту або дзесяць і сем дзесятых капейкі з кілёграму.

Вышэй № 29, але ня вышей № 39—шэсьць і шэсьць дзесятых капейкі або шаснаццаць капеяк.

Вышэй № 39, але ня вышэй № 29—трынаццаць і дзьве дзесятых капейкі або трыццаць і дзьве дзесятыя капейкі.

Вышэй № 49, але ня вышэй № 79—трыццаць адна капейка або семдзесят шэсьць капеяк.

Вышэй № 79, але ня вышэй № 99—пяцьдзесят тры капейкі або адзін рубель трыццаць капеяк.

Вышэй № 99—восемдзесят восем капеяк або два рублі пятнаццаць капеяк.

**Б. Вігоневая пража:**

ня вышэй № 9—тры і тры дзесятыя капейкі або восем капеяк.

Вышэй № 9—шэсьць і шэсьць дзесятых капейкі або шаснаццаць капеяк.

**В. Льняная і пяньковая пража:**

ня вышэй № 6—адна і сем дзесятых капейкі або чатыры і дзьве дзесятыя капейкі.

Вышэй № 6, але ня вышэй № 10—дзьве і дзьве дзесятыя капейкі або пяць і чатыры дзесятыя капейкі.

Вышэй № 10, але ня вышэй № 12—тры і тры дзесятыя капейкі аао восем капеяк.

Вышэй № 12, але ня вышэй № 14—пяць і тры дзесятыя капейкі або дванаццаць і дзевяць дзесятых капейкі.

Вышэй № 14, але ня вышэй № 20 шэсьць і шэсьць дзесятых капейкі або шаснаццаць капеяк.

Вышэй № 20, але ня вышэй № 22 восем капеяк або дзевятнаццаць і пяць дзесятых капейкі.

Вышэй № 22, але ня вышэй № 24—дзевяць і тры дзесятыя капейкі або дваццаць дзьве і сем дзесятых капейкі.

Вышэй № 24, але ня вышэй № 30—трынаццаць і дзьве дзесятыя кацейкі або трыццаць дьзве капейкі.

Вышэй № 30, але ня вышэй № 40—дваццаць капеяк або сорак дзевяць капеяк.

Вышэй № 40, але ня вышэй № 60—трыццаць сем і пяць дзесятых капейкі або дзевяцьдзесят адна і цяць дзесятых капейкі.

Вышэй № 60, але ня вышэй № 80—шэсьцьдзесят дзьве капейкі або адзін рубель пяцьдзесят адна капейка.

Вышэй № 80, але ня вышэй № 100—адзін рубель сорак дзьве капейкі або тры рублі і сорак шэсьць капеяк.

Вышэй № 100—адзін рубель шэсьцьдзесят капеяк або тры рублі дзевяцьдзесят капеяк.

**Г. Вяровачная пяньковая пража**—адна і тры дзесятыя капейкі або тры і дзьве дзесятыя капейкі.

**Д. Джутовая**—чатыры і чатыры дзесятыя капейкі або дзесять і сем дзесятых капейкі.

**Е. Шэрсьцяная камвольная пража** (франц. прадзеньня).

Ня вышэй № 37—восемдзесят восем капеяк або два рублі пятнаццаць капеяк.

Вышэй № 37, але ня вышэй № 57—адзін рубель шэсьць капеек або два рублі пяцьдзесят дзевяць капеяк.

Вышэй № 57, але ня вышэй № 77—адзін рубель сорак шэсьць капеяк або пяцьдзесят шэсьнь капеяк.

Вышэй № 77, але ня вышэй № 82—адзін рубель семдзесят шэсьць капеяк або чатыры рублі дваццаць дзевяць капеяк.

Вышэй № 82—два рублі дваццаць капеяк або пяць рублёў трыццаць сем капеяк.

**Ж. Шэрсьцяная камвольная пража** (ангел. прадз.).

Ня вышэй № 8—дзесяць і шэсьць дзесятых капейкі або дваццаць пяць і дзевяць дзесятых капейкі.

Вышэй № 8, але ня вышэй № 14—семнаццаць і сем дзесятых капейкі або сорак тры і дзьве дзесятыя капейкі.

Вышэй № 14, але ня вышэй № 20—дваццаць шэсьць і пяць дзесятых капейкі або шэсьцьдзесят чатыры і сем дзесятых капеяк.

Вышэй № 20, але ня вышэй № 27—трыццаць дзевяць капеяк або дзевяцьдзесят пяць капеяк.

Вышэй № 27, але ня вышэй 34—пяцьдзесят тры кап, або адзін рубель дваццаць дзевяць капеяк.

Вышэй № 34, але ня вышэй № 37—семдзесят і пяць дзесятых капейкі або адзін рубель семдзесят дзьве капейкі.

Вышэй № 37, але ня вышэй № 57—восемдзесят восем капеяк або два рублі пятнаццаць капеяк.

Вышэй № 57—адзін рубель трыццаць дзьве капейкі або тры рублі дваццаць дзьве капейкі.

**З Шэрсьцяная пража дзеля апарату.**

Ня вышэй 2-х маткоў—сем і пяць дзесятых капейкі або восемнаццаць і тры дзесятыя капейкі.

Звыш 2-х маткоў, але ня вышэй 3-х—дзесяць і шэсьць дзесятых капейкі або дваццаць пяць і дзевяць дзесятых капейкі.

Звыш 3-х, але ня звыш 5-ці—трынаццаць і дзьве дзесятыя капейкі або трыццаць дзьве і дзьве дзесятыя капейкі.

Звыш 5, але ня звыш 7—семнаццаць і сем дзесятых капейкі абн сорак тры і дзьве дзесяты капейкі.

Звыш 7-мі, але ня звыш 9-ці—двайцаць чатыры і дзьве дзесятыя кап. або пяцьдзесят дзевяць капеяк.

Звыш 9, але ня звыш 12-ці—трыццаць тры капейкі або восемдзесят і пяць дзесятых капейкі.

Звыш 12-ці машкоў—пяцьдзесят тры капейкі або адзін рубель двацацаць дзевяць капеяк.

### І. Шаўковая пража.

Бур-дэ суа (або шап) 100/$_1$—два рублі шэсьцьдзесят пяць капеяк або шэсьць рублёў сорак сем капеяк.

Бур-дэ-суа (або шап) $^{200}/_2$—чатыры рублі сорак капеяк або дзесяць рублёў семдзесят чатыры капейкі.

Бур-дэ-суа (або шап) 300/$_2$—шэсьць рублёў шэсьцьдзесят кап. або шаснаццаць рублёў дзесяць капеяк.

Бурэт—семдзесят і пяць дзесятых капейкі або адзін рубель семдзесят дзьве капейкі.

### К. Грэжа (сыры шоўк).

Тысажная—шэсьць рублёў шэсьцьдзесят капеяк або шаснаццаць рублёў дзесять капеяк.

Іншая—два рублі шэсьцьдзесят пяць кап. або шэсьць рублёў сорак сем капеяк.

Штучны шоўк—два рублі шэсьцьдзесят пяць капеяк або шэсьць рублёў сорак сем капеяк.

**23.** На тканіны, прывожваемыя з-за кардону з фунту або кілёграму.

Папяровыя тканіны асобна не пералічаныя, зробленыя з простае пражы (хоць бы з пругамі з суканае пражы у два канцы і болей), тканіны полотнянага сьпляценьня, якія маюць у хунця звыш 8 кв. аршынаў і у адным квадратовым дзюйму у аснове й утку ня болей 152 нітак—сем капеяк з хунту або семнаццаць капеяк з аднаго кілёграму і болей 152 нітак—дзевятнаццаць і пяць дзесятых капеяк або сорак сем і пяць дзесятых капеяк.

Тканіны усякага сьпляценьня, акрамя палічаных вышэй, якія маюць у хунту нн звыш 12 квадратовых аршынаў і у адным квадратовым дзюйму у аснове й утку разам: а) ня болэй 240 нітак—трыццаць тры і пяць дзесятых капейкі або восемдзесят дзьве капейкі; б) болей 240 нітак—сорак восем і пяць дзесятых капейкі аяо адзін рубель внсемнаццаць капеяк.

Тканіны усякага сьпляценьня і усякае гусьціні, якія маюць у хунту болей 12 кв. аршынаў—семдзесят і пяць дзесятых капейкі або адзін рубель семдзесят дзьве капейкі.

Папяровыя тканіны асобнае вырабаткі—пяцьдзесят тры капейкі або адзін рукель двацацаць дзевять капеяк.

Канаты, бячоўкі, вяроўкі і сеці: канаты, бячоўка, вяроўкі з джуту, кенэфы, пянькі, лёну, пяньковае і льнянное тканіны, хваевае шэрсьці, рамі, крапіўных волакнаў і іншых расьлінавых валокністых матар'ялаў, смоленыя і нясмоленыя—чатыры і пяць дзесятых капейкі або адзінаццаць капеяк. Сеці; а) з хлапковае паперы—шэсьць капеяк або чатырнаццаць і пяць дзесятых капейкі, б) льняные і джутовыя—восем капеяк або дзевятнаццаць і пяць дзесятых капейкі.

Зробленыя з джуту, кенэфы, пянькі і лену: мяшкі, тканіны дзеля мяшкоў і пакаваньня, дарожкі на падлогу і сурвэткі дзеля выціраньня машынаў—дзьве капейкі або чатыры і нзевяць дзесятых капейкі.

Тканіны з лёну, панькі, джуту, кенэфы, хваевае шэрсьці, рамі, новазэляндскага лёну, манільскае пянькі, вплакнаў з крапівы і іншых расьлінавых матар'ялаў, замяняючых лён і пяньку; дывановыя, мэблёвыя і дзеля драпіраваньня, вагоныя і іншыя цяжкія тканіна—трынаццаць капеяк або трыццаць дзьве капейкі.

Тканіны дзеля адзежы і каломенка, рагожка, дрэль, сацін, куціль, дыаганаль і інш. - семнаццать з паловаю капеяк або сорак тры капейкі.

Сталовыя і мэблевыя сурвэты, сурветкі і рушнікі—трыццаць адна капейка або семдзесят шэсьць капеяк.

Палатно і баціст з някручанае пражы, льняное, пяньковае і іншых валокністых матар'ялаў (джуту, кенэфы, хваевае шэрсьці, рамі, навазэляндскага лёну, манільскае пянькі, валокнаў крапівы і іншых расьлінавых матар'ялаў, замяняючых лён і пяньку), акрамя тканікаў дзеля адзежы (каломенка, рагоже, дрэль, куціль, сацін, дыаганаль і іншае) сорак чатыры капейкі або адзін рубель сем капеяк.

Насаткі, няхай нават у неразрэзаных кусках—семдзесят і пяць дзесятых капейкі або адзін рубель семдзесят дзьве капейкі.

Вошчанка, кляёнка, апрача шаўковае і паўшаўковае і вырабы з іх, асобна не пералічаныя, тканіны, пацягненыя коркаваю масаю (лінолеум), загрунтованыя фарбаю і прасмоленыя, а гэтак сама усялякія пракладкі дзеля машынаў, набіўкі дзеля сальнікаў, пластамі і зьвёрткамі і інш., зробленыя з прасмоленых і прасаленых тканінаў брызэнты, пяньковыя кішкі дзеля пажарных трубаў, пяньковыя вёдры, пяньковыя папяровыя пасы—чатыры і пяць дзесятых капейкі або адзінаццаць капеяк.

Шаўковыя тканіны і туль—тры рублі і трыццаць пяць і пяць дзесятых капейкі або восем рублёў дзевятнаццаць капеяк.

Вошчанка і кляёнка, шаўковая і паўшаўковая—два рублі дванаццаць капеяк або пяць рублёў семнаццаць капеяк.

Паўшаўковыя тканіны—адзін рубель семдзесят шэсьць і пяць дзесятых капейкі або чатыры рублі трыццаць адна капейка.

Шэрсьцяныя войлакі і войлачныя матэрыі, асобна пералічаныя рэчы, зробленыя выкройваючы з шэрсьцянога аойлаку—трыццаць пяць і пяць дзесятых капейкі або восемдзесят шэсьць і пяць здесятых капейкі.

Шэрсьцяныя тканіны, асобна пералічаныя тканіны, якія даюць на хунт ня меней двух кв. аршынаў—семдзесят і пяць дзесятых капейкі або адзін рубель семдзесят дзьве капейкі.

Тканіны, якія даюць на хунт ад 2 да 3 кв. арш.—адзін рубель шэсьць капеяк або два рублі пяцьдзесят дзевяць капеяк.

Тканіны, якія даюць на хунт 3 кв. арш. і болей, а гэтак сама тканіны усякае вагі, зробленыя з фасоннае пражы—адзін рубель пяцьдзесят капеяк або тры рублі шэсьдзесят шэсьць капеяк.

Пасы з вярблюдавае шэрсьці—дваццаць дзьве капейкі або пяцьдзесят чатыры капейкі.

Зшытыя канцамі шэрсьцяныя палотны дзеля ужы-

ваньня на фабрыках — семнаццаць і пяць дзесятых капейкі або сорак дзьве і пяць дзесятых капейкі.

Шэрсьцяныя дываны і дыванныя матэрыі, якія даюць на хунт ня болей чатырох пятых кв. аршыну — пяцьдзесят тры капейкі або адзін рубель дваццаць дзевяць капеяк.

Фескі шэрсьцяныя, вышытыя кліскучкамі і без іх — з штукі — адзін рубель шэсьць капеяк або два рублі пяцьдзесят дзевяць капеяк.

Вязаныя, плеценыя і басонныя вырабы: вязаныя вырабы, хоць бы з адзнакамі шыцья, шаўковыя і паўшаўковыя — два рублі шэсьцьдзесят пяць капеяк або шэсьць рублеў сорак сем капеяк, усякія асобна не пералічаныя — семдзесят і пяць дзесятых капеяк або адзін рубель семдзесят дзьве капейкі.

Басонныя вырабы, як: шнуркі, тасьмы, аграманты, фрэндлі, кутасы, гарнітуры і інш., а гэтак сама плеценыя вырабы, якія не надобны ґа карункаў, ажурна-вузорнага сыпляценьня: а) шаўковыя і паўшаўковыя — два рублі дваццаць і пяць дзесятых капеяк або пяць рублёў трыццаць восем капеяк, б) усякія асобна не пералічаныя — пяцьдзесят тры капейкі або адзін рубель дваццаць дзевяць капеяк.

Туль кускамі і асобнымі кавалкамі, папяровы, гардынны з вузорамі — семдзесят і пяць дзесятых копейкі або адзін рубель семдзесят дзьве капейкі.

Усякі асобна не пералічаны — восемдзесят восем і пяць дзесятых капеяк або два рублі шаснаццать кап.

Карункі і плецяныя вырабы, якія падобна да карункаў ажурна—вузорнага сьпляценьня (шаўковыя і паўшаўковыя) — восем рублёў восемдзесят тры капейкі або дваццать адзін рубель пяцьдзесят чатыры капейкі.

Усякія асобна не пералічаныя — два рублі дваццаць і пяць дзэсятых капейкі або пяць рублёў трыццаць восем копеяк.

Вышыукі, вышываныя матэрыі і туль: а) шаўковы і з далучэньнем шоўку, вышываныя золатам, срэбрам і бліскучкамі — тры рублі дзевяць капеяк або сем рублёў пяцьдзесят чатыры капецкі, б) усякія, апрача пералічаных у п. „б" вышываныя шоўкам, золатам і бліскучкамі — адзін рубель трыццаць дзьве і пяць дзесятых капейкі, або тры рублі дваццаць тры капейкі, в) вышываныя звычайнымі матар'яламі — семдзесят і пяць дзесятых капейкі або адзін рубель семдзесят дзьве капейкі.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
24 жніуня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 366. Аб установах дзеля зьбіраньня і выдачы справак аб крэдытаздольцасьці.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Установы дзеля зьбіраньня і выдачы справак аб крэдытаздольнасьці, у якой бы форме яны нізьяўляліся, могуць пачынаць сваю працу ня інакш, як здазволу Савету Працы і Абароны.

**2.** Просьбы аб дазволе пачаць працу паказаных у арт. 1 установаў падаюцца у камісію па ўнутранаму гандлю пры СПА і передаюцца камісіяй з яе заключэньнем у Савет Працы і Абароны.

**3.** Праца паказаных у арт. 1 гэтае пастановы установаў належыць кантролю камісіі па ўнутранаму гандлю пры СПА на падставе выпрацаванай ёю інструкцыі.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**
23 жніуня 1923 г. Масква—Крэмль.

---

Главлит № 16705 Тираж 5.000 экз.

Типография „Красный Пролетарий" Издательства „Красная Новь", Пимсновская, 1/16.

# ВЫДАНЬНІ ЦВК САЮЗУ ССР

НА РАСЕЙСКАЙ, УКРАІНСКАЙ, БЕЛАРУСКАЙ, ГРУЗІНСКАЙ, АРМЯНСКАЙ
і ТЮРКА-ТАТАРСКАЙ МОВАХ.

1. Першы з'езд саветаў Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача (*з дыаграмамі і статыстычнымі довадамі*).
2. Пастановы 1 з'езду саветаў Саюзу ССР.
3. I сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
4. II сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
5. Весьнік рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР (*двухтыднёвік*). *№№ 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12 і 13.*

**АДРАС ВЫДАВЕЦТВА:**
**МАСКВА—КРЭМЛЬ—ЦВК САЮЗУ ССР.**
ТЭЛЕФОНЫ: Крэмль, дадатк. 1-27 і гарад. 19-92.

**ПЕРАДПЛАТА ПРЫМАЕЦЦА**
**ГАЛОЎНАЙ КАНТОРАЙ „ВЕСЬНІКУ ЎРАДУ“.**
МАСКВА, Цьвярская, 48.
(ГАЛОЎНАЯ КАНТОРА „ИЗВЕСТИЙ“ ЦВК САЮЗУ ССР і ЎЦВК).